


Маладзечна, Вілейка, Смаргонь, Ашмяны, Валожын, Мядзел, Астравец, Мінск

# рэгіянальная газета

31 кастрычніка 2003 года

№ 44 (445)

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года




## Навіны рэгіёну

### Выйгралі конкурс

ВАЛОЖЫН. Ёсць чым ганарыцца калектыву ААТ "Валожынскі маласырзавод". На рэспубліканскім семінары, што праходзіў у горадзе Бяроза Гродзенскай вобласці, сыр "Расійскі малады" заняў 2-е месца. Усяго на конкурс было прадстаўлена больш за 60 найменняў сыроў.

Марына СЛІЖ.

### Новы гурток

АСТРАВЕЦ. Амаль 30 астравецкіх юнакоў і дзяўчат маюць магчымасць вывучаць літоўскую мову. Пасадзейнічалі ім у гэтым прадстаўнікі літоўскай абшчыны з Рымдзюн і цэнтра пазашкольнай работы, якія арганізавалі гурток па вывучэнні літоўскай мовы і культуры. Заняткі па серадах праводзіць там настаўніца літоўскай мовы Рымдзюнскай СШ Віялета Лапецене.

Мар'ян ВЯНГРОЎСКІ.

### Здымалі кіно

МЯДЗЕЛ. У вёску Будслаў прыязджала здымачная група праграмы "Падарожжы дылетанта" першага нацыянальнага тэлеканала. "Вандравалі" журналісты па вёсцы, школе і касцёле доўга – выехалі з Будслава амаль у поўнач. А вынікі збіраюцца паказаць у нядзелю, 2 лістапада, у 10.55 раніцы. Перадача мае падзагаловак: "Вёска Будслаў. Горад майстроў".

Аддзел інфармацыі "РГ".

### Адкрыўся рынак

СМАРГОНЬ. На мінулым тыдні пасля рэканструкцыі адбылося доўгачаканае адкрыццё прадуктовага рынку. Цяпер рынак мае сучасны выгляд. Пад новым дахам адначасова могуць прадаваць свой тавар прыкладна 180 чалавек, акрамя таго на тэрыторыі налічваецца яшчэ 10 гандлёвых павільёнаў, прыбіральня, вагавая і ветлабараторыя.

Галіна АНТОНАВА.

### Напярэдадні Дзядоў

МАЛАДЗЕЧНА. У нядзелю, 26 кастрычніка, група маладзечанцаў пабывала ў Плябані каля Краснага, каб ушанаваць памяць 4 паўстанцаў, што загінулі ў бітве з царскімі карнікамі ў час паўстання Кастуся Каліноўскага. Акцыю арганізавалі Тадэвуш Шусціцкі і Ян Лагвіновіч.

Аддзел інфармацыі "РГ".

### Ёсць ахвяра

ВІЛЕЙКА. Курэнне ў ложку стала прычынай пажару, які адбыўся ў вёсцы Каловічы. Гаспадыню хаты ўдалося выратаваць, а вось яе сын, 1969 года нараджэння, задыхнуўся ў дыме.

Марына СЛІЖ.

# Анатомія прасторы

**МАЛАДЗЕЧНА. "Анатомія прасторы. Вакол. Унутры. Далёка. Трэба і так. Экспрэсіўна. Энергіяй. Жывапіс не ілюстрацыя. Гэта пачуццё. Не паддаецца прамалінейнаму чытанню. Няхай. Гэта нармальна. Галоўнае – рытм, колер, структура, асацыяцыя."**

Такая канцэпцыя выставы мастака **Уладзіміра Тамашэвіча**, што адкрылася 28 кастрычніка ў Палацы культуры горада Маладзечна. Амаль усе работы з гэтага цыкла выстаўляюцца ўпершыню.

Ён нарадзіўся ў вёсцы Палачаны Маладзечанскага раёна. Пасля Палачанскай сярэдняй школы вучыўся ў Мінскім мастацкім вучылішчы імя Глебава. Лічыць, што яму пашанцавала ў гэтым плане: "Туды паступаюць мінчане пасля мастацкіх школ. А я вясковы хлопчык".

Да трыццаці гадоў амаль не выстаўляўся. Цяпер шкадуе аб гэтым. "Трэба было пачынаць гадоў з 25. Калі ты пішаш сам па сабе – гэта адно. А калі прымеш удзел у рэспубліканскай выставе, то ўжо глядзіш, як ты выглядаеш адносна іншых, што трэба адкінуць. Нельга замыкацца ў сабе. Цяпер у Маладзечне ёсць група мастакоў – Мяжуеў, Аўчыннікаў, Харашэвіч, Лазоўскі. Мы часта сустракаемся, наведваем выставы, абмяркоўваем убачанае. Выдатна, што ў нас такія адносіны".

Мастак, на думку Уладзіміра Тамашэвіча, не павінен успрымаць свет, як усе людзі. Інакш ён становіцца рамеснікам ад мастацтва. "Напісаць рэалістычны краявід, —кажа ён, — няцяжка. Трэба шукаць сваё мастацтва, каб яно адпавядала менавіта табе. І быць у рэчышчы развіцця сучаснага, ведаць, што створана іншымі. А для гэтага неабходны свабодны доступ да інфармацыі, каб грамадства не было закрытае."

Існуе меркаванне, што сваякам творчых асобаў цяжка вытрымліваць іх характар. Уладзімір рады, што жонка і дзве дачкі разумеюць яго. "Дзякуй Богу, што мая сям'я мяне церпіць", — кажа ён.

Святлана ЦІШКО.



Уладзімір Тамашэвіч каля сваіх карцін на персанальнай выставе, што праходзіць у Маладзечанскім палацы культуры.

Фота Святланы ЦІШКО.

### Будзем з кілбасой



На Маладзечанскім прадуктовым рынку тыдзень ужо працуе новы кілбасны павільён.

3-я старонка

### Фестываль «Напеў зямлі маёй»

Кампазітар Ігар Лучанок адсвяткуе юбілей творчай дзейнасці ў Маладзечне.

5-я старонка

### Расклад руху пасажырскіх, прыгарадных цягнікоў, а таксама электрацягнікоў па станцыі Маладзечна.



6-я старонка

■ ВЫСТАВА

# Пушкін у Вілейцы

**ВІЛЕЙКА. Па 15 лістапада будзе доўжыцца ў горадзе выстава вядомага беларускага мастака Алеся Пушкіна. На ёй прадстаўлены рознапланавыя працы – сямейныя карціны, сацыяльныя нацюрморты, партрэты ўдзельнікаў беларускага рэзістансу.**

На адкрыцці выступіў сам Алесь Пушкін, мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі, галоўны рэдактар часопіса "Куфэрак Віленшчыны" Міхась Казлоўскі, а таксама Мікалай Сцебурака і Алесь Юркойць, якія сталі ініцыятарамі правядзення выставы.



У час выставы ў Вілейцы Алесь Пушкін з задавальненнем тлумачыў прысутным сэнс сваіх карцін. Фота Віталя ПАЎЛОЎСКАГА.

У выступленні на адкрыцці Алесь Пушкін распавёў пра сваю творчасць, патлумачыў сэнс сваіх твораў, якія паказваюць суб'ектыўны, але ўласны погляд мастака. З яго вуснаў прагучаў заклік заставацца беларусамі і задумацца, чаму знікае ўсё беларускае. Алесь Пушкін паспадзяваўся, што выстава ўзбудзіць культурнае жыццё ў Вілейцы і паспрыяе шчырай дыскусіі аб стане сучаснага беларускага мастацтва, ролі асобы ў мастацтве і гісторыі. Наконт сваіх планаў Алесь сказаў: "Надалей гэтак і буду жыць. Жыць у сваёй краіне, мець маленькія радасці ад таго, што я тут патрэбны, даглядаць старэнькіх бацькоў, любіць жоначку і маліць Бога аб сямейным шчасці".

Мастацтвазнаўца Сяргей Харэўскі назваў выставу вельмі рэдкай і шчаслівай магчымасцю пазнаёміцца з творчасцю Алеся Пушкіна розных гадоў – ад самых першых вучнёўскіх да найноўшых прац, якія сталі прадметам сур'ёзнага дыскутавання і абмеркавання. Усе творы Алеся Пушкіна маюць сваё ўласнае жыццё. Некаторыя з іх былі рэчавымі доказамі ў міліцэйскіх справах, некаторыя са скандаламі здымаліся з афіцыйных выстаў.

На думку Міхася Казлоўскага, Алесь Пушкін – класік беларускага выяўленчага мастацтва, які піша з болем і душой. Гэта сапраўдны мастак, які заўсёды застаецца самім сабой і ў сваіх працах, і ў сваім жыцці.

Творчасць і дзейнасць Алеся Пушкіна, які ў дадатак ёсць вядомым майстрам перформансу, неадназначна ўспрымаецца ў грамадстве. У 1988 г. ён узняў бел-чырвона-белы сцяг над будынкам Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута. Пасля заканчэння з адзнакай Акадэміі мастацтваў у Мінску з 1990-га па 1996 год працаваў у Віцебску, дзе меў нават сваю мастацкую галерэю, у якой праходзіла шмат беларускіх культурных мерапрыемстваў. У 1997 годзе вярнуўся на сваю малую радзіму ў мястэчка Бобр Крупскага раёна Мінскай вобласці. У 1999-м годзе Алесь Пушкін быў асуджаны за перформанс "Тачка для прэзідэнта", калі ён прывёз тачку гною да будынку адміністрацыі прэзідэнта ў знак "падзякі" за 5-гадовае праўленне. У серыі "Беларускі рэзістанс" Алесь Пушкін стварыў партрэты шэрагу беларускіх патрыётаў, якія выступалі падчас другой сусветнай вайны на баку Германіі і зрабілі ўнёсак у незалежнасць Беларусі не меншы, чым Мікалай Гастэла ці Марат Казей. Алесь Пушкін развівае беларускую школу іканапісу і сценапісу – удзельнічае ў роспісе шэрагу царкваў і касцёлаў, запрашаўся ў ЗША ў штат Агайо распісаць пабудаваную там беларусамі царкву Жыровіцкай Божай Маці.

**Віталь ПАЎЛОЎСКІ.**

■ ТЭАТР

## Для амаратараў Мельпамены

**МАЛАДЗЕЧНА. З 1 па 3 лістапада ў нашым аблдрамтэатры адбудуцца гастролі Мазырскага абласнога драматычнага тэатра імя Мележа.**

На суд гледача будуць прапанаваныя спектаклі маладога рэжысёра Рамана Цыркіна (ён некалі працаваў у трупе Мінскага аблдрамтэатра), які, дарэчы, з'яўляецца і галоўным рэжысёрам тэатра ў Мазыры.

Гэта трагічна-пяшчотная пастаноўка "Дрэвы паміраюць стоячы" Аляхандра Касона. Амаль што дэтэктыўны сюжэт першага дзеяння плаўнай рысай пераходзіць у сапраўдную трагедыю страчаных надзей і ілюзій, трагедыю, канфлікт якой з асабістага, суб'ектыўнага, вырастае да маштабу глабальнай, агульначалавечай драмы. Але ўсё ж – гэта ода мужнасці, стойкасці, расповед пра вечнасць, пра каханне...

А таксама "Каханне ў стылі барока" Яраслава Стэльмаха – апошняя прэм'ера мінулага сезона мазыран. Пераканаеш халасцяк Граф упарта пазбягае вузаў Гіменэя, расстаўляе хітрамудрыя пасткі, каб выклікаць агіду ў сваёй нарачонай. А да чаго могуць прывесці інтрыгі, вы даведаецеся, пагл ядзеўшы камедыю.

Не пакінулі мазыране без увагі і маленькіх маладзечанцаў. У падарунак яны пакажуць казку Сяргея Міхалкова "Тры парасяці" ў інсцэніроўцы Рамана Цыркіна.

Чакаем вас, прыхільнікі тэатра. У вас ёсць шанс усё ўбачыць сваімі вачыма.

**Крысціна БОНДАР, Валянціна ШЫКАВЕЦ.**

## Рэпертуар Мінскага абласнога драматычнага тэатра на лістапад



**Ранішнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| *14 пятніца 10.00* | **"Парася, якое спявае, або Нам нельга без сябра"** (музычная казка-жарт) Сяргей Казлоў |
| *28 пятніца 12.00* | **"Чарадзейства ў краіне Оз"** Галіна Булыка |

**Вячэрнія спектаклі**

| | |
|---|---|
| *8 субота 17.00* | **"Сэкс па перапісцы"** Лявон Вашко |
| *11 аўторак 19.00* | **"Матухна Кураж і яе дзеці"** (гандлёвы мюзікл) Бертольд Брэхт |
| *12 серада 19.00* | **"Вечар"** (лірычная меладрама) Аляксей Дудараў |
| *13 чацвер 19.00* | **"Сільвія"** (меладрама-трагікамедыя пра каханне) А.Герні |
| *15 субота 17.00* | **"Без мяне жанілі"** (камедыя ў 2-х дзеях) Франц Ксавер Крэц |
| **Прэм'ера.** *22 субота 17.00, 23 нядзеля 17.00, 25 аўторак 19.00* | **"Месье з рагамі, мадам з вусамі"** (дапаможнік для будучых раганосцаў у 2-х камедыях) Марсэль Б.Мерыньё А.Курбскі |
| *26 серада 19.00* | **"Прынц Мамабук"** Аляксей Дудараў |
| *27 чацвер 19.00* | **"Апошняя ахвяра"** (меладрама) Аляксандр Астроўскі |
| *28 пятніца 19.00* | **"Нязваны госць"** (ну, ве-е-ельмі сур'ёзная камедыя) Святлана Бартохава |
| *29 субота 17.00* | **"Камедыя"** (камедыя ў 2-х дзеях паводле твораў К.Марашэўскага і Ф.Аляхновіча) Уладзімір Рудаў |

**Гастролі Мазырскага абласнога драматычнага тэатра імя Мележа**

| | |
|---|---|
| *1 субота 17.00* | **"Каханне ў стылі барока"** (камедыя ў 2-х дзеях) Яраслаў Стэльмах |
| *2 нядзеля 12.00* | **"Тры парасяці"** (казка) Сяргей Міхалкоў |
| *17.00* | **"Дрэвы ўміраюць стоячы"** (трагікамедыя ў 2-дзеях) Алехандра Касона |
| *3 панядзелак 12.00* | **"Тры парасяці"** (казка) Сяргей Міхалкоў |

Мастацкі кіраўнік – Валерый Ласоўскі.

Тэл. для даведак: 5-24-17 – каса, 6-17-32 – выкладчык-арганізатар, 5-29-16 – намеснік дырэктара.

## Рэпертуар Мінскага абласнога тэатра лялек "Батлейка" на лістапад 2003 года

| | |
|---|---|
| *2 нядзеля 12.00* | Прэм'ера. Г.Х. Андэрсэн. **"Салавей"** (лірычная казка) |
| *9 нядзеля 12.00* | П. Васючэнка. **"Новы калабок"** (казка) |
| *16 нядзеля 12.00* | Ул. Карастылёў. **"Доктар Айбаліт"** (казка) |
| *23 нядзеля 12.00* | М. Андрэеў. **"Вясёлкі Батлейкі"** (забаўляльны спектакль-канцэрт) |
| *30 нядзеля 12.00* | Прэм'ера. Г.Х. Андэрсэн. **"Салавей"** (лірычная казка) |

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: вул. Драздовіча, 5-в. Тэл. 5-36-73, 6-84-27. Каса працуе з 10.00 да 14.00.

■ ДАБРАЧЫННАСЦЬ

## Будуць плённа супрацоўнічаць з інвалідамі

**МАЛАДЗЕЧНА. «Круглы стол» з удзелам прадстаўнікоў грамадскага аб'яднання "Рунь" і членаў маладзечанскай гарадской арганізацыі беларускага таварыства інвалідаў адбыўся 21 кастрычніка ў памяшканні таварыства інвалідаў.**

Пётр Голасаў: прадстаўнік «Руні» пазнаёміў прысутных з работай сваёй арганізацыі. У выніку сустрэчы усе дамовіліся аб інфармацыйным супрацоўніцтве. Аб'яднанне "Рунь" будзе таксама аказваць фінансавую дапамогу ў правядзенні канцэртаў, вечарынаў, спаборніцтваў для людзей з абмежаванымі фізічнымі магчымасцямі. Гарадская арганізацыя інвалідаў ужо атрымала невялікую суму грошай на шахматна-шашачны турнір, што запланаваны на 27 лістапада.

**Святлана ЦІШКО.**

## Шведскі досвед

**МАЛАДЗЕЧНА. 29 кастрычніка Беларускі Хельсінкскі камітэт разам з Шведскім міжнародным ліберальным цэнтрам правёў «круглы стол», дзе абмяркоўваўся вопыт Швецыі і Беларусі ў правядзенні выбараў.**

Удзел у «круглым сталe» прынялі прадстаўнікі грамадскіх і партыйных арганізацый, выкладчыкі навучальных установ, навучэнцы са Смаргоні, Вілейкі, Астраўца, Маладзечна. З дэпутатаў у рабоце стала прыняла ўдзел дэпутат Смаргонскага раённага савета Ірына Вештард, выканаўчую ўладу прадстаўляў загадчык аддзела інфармацыі Маладзечанскага гарвыканкама Анатоль Асманаў.

Тон у дыскусіі задалі старшыня Беларускага Хельсінкскага камітэта **Таццяна Працька**, дэпутат парламента Швецыі **Тына Акетофт**, шведскі журналіст **Тобіяс Люнгвал**.



Шведскі парламентарый Тына Акетофт, збіраючыся ісці ў першы клас, пачула ад сваёй бабулі: настаўніца раскажа табе што і як рабіць. Тына тады зразумела, што сказаць што рабіць ёй заўсёды змогуць, але ніхто і ніколі не скажа ёй як і што думаць. Аб гэтым досведзе жыцця яна падзялілася 29 кастрычніка ў Маладзечне і з беларусамі. Фота Аляксандра МАНЦЭВІЧА.

Швецыя блізкая да Беларусі па колькасці насельніцтва, а паўтара стагоддзя таму была амаль роўная ў эканамічным сэнсе. За гэты час Швецыя змагла дасягнуць істотных перамен ў сваёй эканоміцы. Беларусі ж, каб жыць лепш, трэба пераймаць чыйсьці досвед. Але і шведы таксама зазначылі на «круглым стале», што Беларусь многаму іх вучыць.

**Мікола ГАЙДУК.**

## А лепшы, хто?

**25 лістапада ў Маладзечне праводзяцца адкрытыя конкурсы фотаработ і цырульніцкага майстэрства.**

Ацэньвацца работы цырульняў будуць да 15 лістапада. Да ўдзелу запрашаюцца ўсе жадаючыя.

**Гарвыканкам.**

■ АНОНС

## Запрашаем на вечарыну

Вечарына "Міхась Забэйда-Суміцкі: Жыццё і творчасць" адбудзецца 5 лістапада ў памяшканні турклуба "Пілігрым" а 18 гадзіне. Запрашаем усіх ахвотных.

**Аргкамітэт.**

### Якім будзе харчовы рынак у Маладзечне праз год-два

- Кілбасны павільён
- Бакалейны павільён
- Мясны павільён з новым халадзільным абсталяваннем
- Рыбны павільён (на месцы ранейшага кілбаснага)
- Павільён па продажы сала (цяпершні)
- Ралетныя рады для прамысловых тавараў



**Людміла Макей працуе на рынку больш за 7 гадоў. У свой дзень нараджэння, 29 кастрычніка, як заўсёды, выйшла на работу. Да новага кілбаснага павільёна яшчэ прызвычайваецца. Кажа, што ў старым памяшканні было цяплей. Але ў новым выручка большая, бо вітрыны шырэйшыя – гэта прываблівае пакупнікоў.**

Фота Святланы ЦІШКО.

■ НАВАСЕЛЛІ

# Будзем з кілбасой

**МАЛАДЗЕЧНА. Першы тыдзень адпрацаваў на самым буйным харчовым рынку рэгіёну – рынку Маладзечанскага райспажыўтаварыства – новы кілбасны павільён.**

Новы павільён, які складаецца з трох залаў, шмат раскашнейшы за ранейшы. На адно гандлёвае месца замест ранейшых 1,5 квадратнага метра прыходзіцца 7,5. Ды і прадаўцоў тут працуе больш. 54 гандлёвыя месцы замест 24. А значыць, большы выбар кілбаснай прадукцыі і прадуктаў з птушкі.

Умовы і для пакупнікоў, і для прадаўцоў тут не горшыя, чым у многіх магазінах. У павільёне ёсць халодная і цёплая вада, каналізацыя. 2 спецыяльныя памяшканні для мыйкі інвентару. У кожнага гандляра свая гардэробная шафка.

**Колькі каштавала гандлёвае месца ў новым кілбасным павільёне для прадпрымальніка–арандатара**

Пазыка на будаўніцтва – 4 млн. 240 тыс. руб.
Гандлёвае абсталяванне – 300 тыс. руб.
Халадзільнае абсталяванне – 2 млн. руб.

**Параўнальныя характарыстыкі новага і старога кілбасных павільёнаў:**

Плошча на адно гандлёвае месца:
новы – 7,5 кв.м. стары – 1,5 кв.м.

Колькасць гандлёвых месцаў:
новы – 54 месцы
стары – 24 месцы

На працягу апошняга года рынак няспынна добраўпарадкаваўся. Праведзеная вада ва ўсе павільёны, абсталяваная спецыяльная пляцоўка для збору смецця, пабудаваныя 4 мыйкі для мыцця садавіны і гародніны.

Увод павільёна – адзін з крокаў па рэканструкцыі рынку. Наступны – будаўніцтва аналагічнага павільёна для бакалеі, дзе будзе 34 рабочыя месцы. Днямі пачнецца распрацоўка тэхнічнай дакументацыі, і калі ўсё будзе складвацца ўдала, то на весну і гэты павільён расчыніць свае дзверы. З аднаго павільёна ў іншы можна будзе трапіць па крытай галерэі, не апынаючыся на адкрытым паветры. Механізм фінансавання будаўніцтва быў адпрацаваны на будоўлі кілбаснага павільёна. Тады прадпрымальнікі пакрылі большую частку затрат на яго будаўніцтва, даўшы райспажыўтаварыству пазыку. За кожнае гандлёвае месца (выкуплялі ад аднаго да трох) прадпрымальнікі выклалі па 4 млн. 240 тыс. рублёў. Даўгі райспажыўтаварыства перад прадпрымальнікамі будуць пагашацца на працягу амаль трох год. Палова арэнднай платы за гандлёвае месца (а сёння месца каштуе 9 тысяч 200 рублёў у дзень) будзе пакрывацца з доўгу райспажыўтаварыства перад прадпрымальнікам:

— Прыкладна праз 3 гады гандлёвыя месцы пяройдуць ва ўласнасць рынку, — гаворыць дырэктар рынку Ганна Сіняўская.

Стары кілбасны павільён пасля рамонту прыме гандляроў рыбай, гэта таксама створыць больш умоў і для гандляроў, і для наведвальнікаў рынку. Адбудзецца рэканструкцыя ўнутры мяснога павільёна – там будзе ўстаноўлена новае халадзільнае абсталяванне, ахаладжальныя сталы.

Сёння на рынку ўсяго 1100 гандлёвых месцаў. Рынак цеснаваты, і з часам, паляпшаючы ўмовы працы для гандляроў і ўмовы для пакупнікоў (акрамя павільёнаў будуць будавацца ралетныя кабіны для гандляроў прамысловымі таварамі), колькасць рабочых месц будзе некалькі скарочаная. Даваць ацэнку гэтаму факту цяжка, але трэба зразумець, што плошча рынку абмежаваная. За плотам – гарадская тэрыторыя, дзе кожны метр таксама выкарыстоўваецца па сваім прызначэнні.

**Мікола ГАЙДУК.**

# Дарогам – мабільную сувязь

**МІНСК. Аператарам мабільнай сувязі даручана да канца года забяспечыць пакрыццё асноўных аўтамагістралей якаснай сувяззю.**

Як расказаў БелаПАН намеснік генеральнага дырэктара РА «Белтэлекам» **Генадзь Мельнікаў**, аператары не выканалі ўмовы ліцэнзіі ў частцы забеспячэння пакрыцця якаснай сувяззю асноўных аўтадарожных магістралей, што звязваюць Мінск з абласнымі цэнтрамі краіны.

«Інвестыцыі мабільных аператараў ідуць нармальна, але ў сілу аб'ектыўных прычын, звязаных з адводам зямлі аблвыканкамамі і райвыканкамамі, узнікаюць моманты, якія стрымліваюць працэс хуткага развіцця сеткі ў частцы ўстаноўкі базавых станцый і пакрыцця па магістралях», — зазначыў Г.Мельнікаў. Мабільныя аператары канстатавалі, што адвод зямлі стрымлівае хуткае будаўніцтва базавых станцый, размяшчэнне іх у землекарыстальнікаў, каб хутка пакрываць сувяззю аўтадарогі. Пры гэтым зазначана, што «Белтэлекам» выконвае свае ўмовы па падачы патокаў мабільнага аператара.

Міністэрства сувязі, падкрэсліў Г.Мельнікаў, «катэгарычна» паставіла пытанне аб забеспячэнні да канца года выканання ўмоў ліцэнзаванняў у частцы пакрыцця асноўных аўтадарог з максімальнай якасцю. Мабільныя аператары павінны імкнуцца да таго, каб выконваць свае абяцанні па пашырэнні зоны пакрыцця, як гэта робіць РА «Белтэлекам» па забеспячэнні графіка падачы патокаў для мабільных аператараў. «Калі няма іншай тэхнічнай магчымасці, мы ўшчыльняем металічны кабель лічбавай апаратуры і ствараем паток для падачы базавай станцыі», — зазначыў намеснік гендырэктара РА «Белтэлекам». На калегіі было зазначана, што ў аператараў мабільнай сувязі да «Белтэлекама» няма прэтэнзій. Асноўная роля аб'яднання — тэхнічнае забеспячэнне развіцця сетак мабільных аператараў — сёння выконваецца.

«Пастановай урада міністэрствам сувязі, эканомікі і юстыцыі даручана разгледзець пытанне, датычнае павелічэння долі дзяржавы ў статутных фондах аператараў мабільнай сувязі СП ТАА «Мабільная лічбавая сувязь» і «Белсел», і ўнесці канкрэтныя прапановы, — заявіў журналістам міністр сувязі Беларусі Уладзімір Ганчарэнка 28 кастрычніка на прэс-канферэнцыі ў РА «Белтэлекам». Паводле яго слоў, у хуткім часе ён мае намер сустрэцца са спецыялістамі Мінэканомікі па гэтым пытанні.

У дачыненні да «МЛС», дадаў міністр, «мы не бачым неабходнасці па змяненні долі дзяржавы і інвестара ў гэтай кампаніі».

Што тычыцца «Белсел», гэтай кампаніі даручана разгледзець пытанне аб павелічэнні долі дзяржавы на агульным сходзе яе заснавальнікаў.

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

## Курсы валют НБ РБ

| | 23.10 руб. | 30.10 руб. |
|---|---|---|
| Долар ЗША | 2123,00 | 2128,00 |
| Еўра | 2482,32 | 2492,85 |
| Злоты | 538,41 | 534,44 |
| Літ | 718,87 | 722,02 |
| Расійскі рубель | 70,95 | 71,36 |
| **«Вулічныя» курсы ў Маладзечне** | | |
| Долар | 2107/2126 | 2125/2140 |

Маладзечна

## Цэны на рынку

| Прадукты | Цана (руб.) 22.10 | 29.10 |
|---|---|---|
| Кілбаса с/вэндж., 1 кг | 13200 | 13280 |
| Сасіскі, 1 кг | 4570 | 4590 |
| Селядзец, 1 кг | 2800 | 2800 |
| Рыс, 0,9 кг | 800 | 850 |
| Грэчка, 0,9 кг | 1300 | 1300 |
| Цукар, 1 кг | 1370 | 1310 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1250 | 1400 |
| Алей, 1 л | 2000 | 2000 |
| Маянэз, 200 г | 490 | 480 |
| Кава «Пеле», 100 г | 2400 | 2400 |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 800 | 850 |
| Соус там.«Мінскі», 0,5 л | 850 | 850 |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 680 | 750 |
| Капуста, 1 кг | 160 | 150 |
| Морква, 1 кг | 250 | 200 |
| Лімоны, 1 кг | 2300 | 2300 |
| Апельсіны, 1 кг | 1900 | 1950 |
| Памідоры, 1 кг | 1500 | 1500 |
| Кавуны, 1 кг | 400 | 500 |
| Яблыкі, 1 кг | 900 | 1000 |
| **Сялянскія прадукты** | | |
| Малако, 1,5 л | 600 | 750 |
| Смятана, 1 л | 2200 | 2200 |
| Масла, 1 кг | 5000 | 5000 |
| Тварог, 1 кг | 1700 | 1800 |
| Яйкі курыныя, 1 дзес. | 1500 | 1300 |
| Бульба, 1 вядро | 2000 | 2000 |
| Яблыкі, 1 кг | 600 | 1000 |
| Журавіны, 5-літр. вядро | 12000 | 13000 |

## Закон супраць ільгот

**МІНСК. У Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі паступіў праект закона «Аб дзяржаўных сацыяльных ільготах, правах і гарантыях для асобных катэгорый грамадзян».**

Будуць скарочаныя льготы для вайскоўцаў, супрацоўнікаў МУС і ваенізаваных падраздзяленняў, асобных катэгорый «чарнобыльцаў», студэнтаў і пенсіянераў. Не зменіцца сацыяльная абарона ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны. Аднак законапраект выключае магчымасць выкарыстання льготаў членамі іх се'мяў.

**БАРЫС КІТ**
**Запіс Васіля БЫКАВА**

# Цярновы шлях

**"Рэгіянальная газета" працягвае друкаваць успаміны аднаго з самых вядомых беларусаў XX стагоддзя Барыса Кіта, запісаныя Васілём Быкавым улетку 2001 года ў Франкфурце-на-Майне. Поўны іх тэкст шукайце на сайце газеты па адрасе regionnews.promedia.by.**

Другая сусьветная вайна, ці другая яе частка, калі немцы напалі на Савецкі Саюз, усіх нас захапіла раптоўна. Я тады знаходзіўся ў Вільні. Аднойчы з прыяцелям гуляў каля станцы па вуліцы Каляёвай. А ў Вільню трапіў, уцёкшы з Беларусі. Калі я яшчэ быў школьным інспэктарам Баранавіцкай вобласьці, дык аднойчы дачуўся, што ў Наваградку ладзіцца вялікае зборышча беларускіх пісьменьнікаў, прыехалі **Янка Купала** і **Якуб Колас** ды іншыя. Я хацеў зь імі спаткацца і прыехаў з Баранавічаў у Наваградак. Але перад тым, як пайсьці на сход, зайшоў да свайго старэйшага прыяцеля доктара **Станіслава Станкевіча**, які яшчэ працаваў вучыцелем маёй гімназіі. І ён мне сказаў: Барыс, дрэнная справа. Як цябе перамясьцілі з Наваградка ў Баранавічы, дык НКВД усіх нашых настаўнікаў паклікаў і пытаўся, што ты рабіў за часам польскім у Вільні? Разам з Астроўскім і гэтак далей. Так выглядае, што табе трэба нешта рабіць, можа, выехаць куды з Баранавічаў. Ну я тады вырашыў паехаць у Вільню. Праз якіх два тыдні пачалася вайна.

Дык вось, калі мы гулялі з Кавалевічам – былым дырэктарам Віленскай беларускай гімназіі — па вуліцы, ужо пачаліся алярмы (паветраныя трывогі - рэд.), як нам падалося,— пробныя. Але я зірнуў на неба і пабачыў Месершміта, не, кажу, гэта ня пробныя. Гэта паветраны напад. У першы ж дзень быў зьнішчаны віленскі аэрадром Парубанак. Пачаліся жахлівыя бамбардыроўкі Вільні, і я вырашыў пакінуць Вільню. Тады ж вечарам пайшоў пехатой у Баранавічы, дзе была мая жонка. Яшчэ патрапіў даехаць цягніком да Ліды, а ўжо ад Ліды пяшком, каб узяць сваю жонку і недзе хавацца. Немцы нас перахапілі, як я з цяжарнай жонкай ішлі з Баранавічаў, дагналі нас у Сталовічах, дзе яны стралялі ва ўсіх падворках. Дык мы схаваліся ў гумне і сядзелі там тры дні і тры начы. Немцы так хутка ішлі наперад, што пакінулі ззаду цэлыя савецкія арміі. Атрымлівалася так, што ўдзень ідуць немцы, а ўначы - савецкія войскі. І так на працягу ўсяго абшару. Канавы, узбочыны, усё было завалена цяжкой савецкай зброяй. Калі мы праходзілі праз Карэлічы, я раптам спаткаўся з адным сваім знаёмым, **Друцькам**, той быў на кані, аказваецца, ён ужо камендант паліцыі. Убачыўшы мяне, ён аж закрычаў: Што — Барыс, адкуль ты? Мы цябе шукаем, каб расстраляць. Уцякай хутчэй! Ён і яшчэ ўратаваў аднаго — **Дыдышку**, якога загадаў скінуць з грузавіка, калі яго вязьлі на расстрэл. Той пасьля скончыў кансэрваторыю і цяпер жыве ў Менску. А Друцька зьнік.

**Працяг будзе.**



Вільня. Яна двойчы зведала пачатак сусветнай вайны. Першы раз у складзе Польшчы 1 верасня 1939 года, другі раз 22 чэрвеня 1941 года. Паветраныя трывогі, бамбардзіроўкі Вільні на ўсё жыццё запомніліся і віленчукам, і тым, хто туды трапіў на нейкі час. Сярод гэтых людзей быў і Барыс Кіт.

Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.

■ **ПАРТРЭТ**

# Да трэнера – на боршч



Трэнер футбольнага клуба «Смаргонь» Сяргей Недавес.

Фота Ірыны РАБУШКІ.

**СМАРГОНЬ. Трэнер футбольнага клуба "Смаргонь"Сяргей Недавес не толькі добра ведае ўсе тонкасці футбола, але і варыць смачны ўкраінскі боршч.**

На яго збіраецца ўся каманда. Гэта адбываецца раз у год з 8 на 9 лістапада, калі заканчваецца футбольная ліга.

– Напэўна, вы з Украіны?

– (Станоўча ківае галавой.) З Чарнігаўскай вобласці. Таму ведаю толк у баршчах і семачках.

І, несумненна, у спорце. Але, спачатку... Дзяцінства Сяргея было не багатае на цацкі. Калі і гуляў, то толькі ў драўляныя. У 7 гадоў бацька падарыў яму алавянага салдаціка, потым – гумовы мяч. У 9 – скураны. Тут усё і пачалося. Хлопчык сабраў дваровую каманду з 15 чалавек. Пагулялі трохі ды вырашылі пайсці ў спартыўную школу. У хуткім часе засталося займацца толькі шасцёра сяброў, у тым ліку і Сяргей. У складзе каманды яны перамаглі на чэмпіянаце Чарнігаўскай вобласці. Маладога спартсмена заўважылі трэнеры. Справай душы на ўсё жыццё футбол абраў адзін ён. Хаця шмат хто з сяброў адвучыўся ў Гродзенскім тэхнікуме фізічнай культуры.

Сяргей таксама скончыў гэты тэхнікум: паехаў услед за старэйшымі сябрамі. Падчас вучобы гуляў за футбольную каманду "Алімп". За тры сезоны забіў 12 мячоў. Цікавых прапаноў аб далейшай працы не было. Ён вярнуўся на Украіну. Але і там чагосьці, як кажуць, для поўнага шчасця, не хапала. Скончыў Чарнігаўскі педагагічны інстытут. Зноў паехаў у Беларусь, трапіў на Смаргоншчыну. Жыццё закруцілася, нібы той мячык. Больш за 10 гадоў адгуляў за мясцовую каманду "Станкабудаўнік". Потым яе перайменавалі ў футбольны клуб "Смаргонь", трэнерам якога ён цяпер і з'яўляецца.

У свабодны ад спорту час ездзіць на рыбалку ці ў лес па грыбы ходзіць. Нядаўна са Старой Рудні амаль 5-кілаграмовага шчупака прывёз, а ў лесе белы грыб знайшоў: больш за кілаграм важыў. Але нягледзячы на такія поспехі ў футболе і па-за ім, дома ён – не галоўны, калі толькі па фінансавай частцы. Усім запраўляе жонка. Таму ўсе кветкі – ёй.

А ўзнагароды – яму.

**Ірына РАБУШКА.**

■ **ЗНАЁМЦЕСЯ — КІЯСКЁР**

# Работу трэба любіць

**МАЛАДЗЕЧНА. Сваю працоўную біяграфію Тацццяна Стольская пачала пісаць у калгасе "Краснае", куды пасля заканчэння Маладзечанскага палітэхнікума трапіла па размеркаванні.**



У кіёску, што размешчаны ў раёне завода парашковай металургіі, працуе Таццяна Стольская.

Фота Марыны СЛІЖ.

Што лёгка не будзе, ведала адразу. Таму цяжкасці ўспрымала як належнае і старалася працаваць не абы дзень да вечара, а каб сорамна не было. Тым не менш, праз два гады развіталася са сваёй сельскагаспадарчай прафесіяй і перакваліфікавалася ў кіяскёры. Толькі ў шапіку і зразумела, што работа можа прыносіць радасць і задавальненне.

Ёй падабаецца абслугоўваць людзей, быць паўнапраўнай гаспадыняй кіёска, дзе ніколі не бывае сумна сярод такой колькасці газет і часопісаў.

Рабочы дзень у Таццяны пачынаецца ў 10 гадзін раніцы і доўжыцца да 18 вечара. Амаль увесь гэты час каля кіёска людзі. А ў пятніцу і суботу дык і нагул выстройваюцца чэргі. Купляюць гараджане ў асноўным перыядычныя выданні, мала звяртаючы ўвагі на астатні тавар у шапіку. Тым не менш, планы кіяскёр выконвае і нават перавыконвае.

Сёлетні год стаў для Таццяны адметным. У верасні яна выйшла замуж і пераехала са сваіх "парашкоў", дзе жыла да гэтага часу, ў залінейны раён, да мужа. Свайго жылля пакуль што не маюць, жывуць з яго бацькамі, якія прынялі Таню як дачку. Ну, а на абед па-ранейшаму бегае дадому, дзе заўсёды чакае маці, з якой, вядома ж, заўсёды ёсць пра што пагаварыць.

**Марына СЛІЖ.**

■ **НЯВЫДУМАНАЯ ГІСТОРЫЯ**

# Да цёткі ў госці

Гэтая гісторыя здарылася шмат год назад, але пры нагодзе ў маёй вёсцы яе заўсёды ўспамінаюць.

Аднойчы пляменнік наведаўся да сваёй цёткі. Даўно разышліся дарогі родзічаў. Яна зрабілася знакамітасцю ў галіне навукі. Ён працаваў звычайным рабочым у лясніцтве.

Пагаманілі. Успомнілі мінулае, сваякоў. Зразумела ж, цётка пачаставала пляменніка. Але ці то мужык у яе быў скупаваты, ці то разгубілася ад нечаканага візіту — у дарогу госцю нічога не паклала.

Прыехаўшы дадому, хлопец пачаў хваліцца, што быў у горадзе, бачыў свет. Навукоўцаў там... не тое, што ў нас.

Адзін з прысутных больш за астатніх цікавіўся візітам. Мо, таму і не ўтрымаўся, спытаў:

—А ці дала што-небудзь цётка на дарогу?

Каб не выглядаць недарэкаю ў гарадскіх справах,хлопец важна прамовіў:

— Канешне. Як жа без цырымоніяў. Дала руку пацалаваць.

Часу з таго дня прайшло багата. Але і да гэтай пары ўспамінаюць людзі гэты выпадак, як прыклад таго, што нельга так сустракаць родзічаў. Бо менавіта гасціннасць адрознівае нас ад іншых у гэтым вялікім свеце.

**Алесь РАЛАВЕЦ.**

■ СВЯТЫ

# Фестываль «Напеў зямлі маёй»

## Лучанок адсвяткуе свой юбілей у Маладзечне

**31 кастрычніка ў Маладзечне праходзіць III абласны фестываль "Напеў зямлі маёй". Два ранейшыя прымаў Пухавіцкі раён.**

Вядома, што Мар'іна Горка – радзіма аднаго з ініцыятараў фестывалю кампазітара Ігара Лучанка, які сёлета 6 жніўня сустрэў сваё 65–годдзе. Сёлета адзначаецца таксама 40–годдзе яго творчай дзейнасці. Фестываль павінен ушанаваць вядомага кампазітара–песенніка, старшыню Саюза кампазітараў.

Галоўныя мерапрыемствы пачынаюцца ў Палацы культуры ў 15 гадзін. Старт святу будзе дадзены пад пазыўныя фестывалю і прывітальныя словы вядучых. Прыехала на падзею каля 500 самадзейных і прафесійных артыстаў, якія падораць маладзечанцам і гасцям горада нямала прыемных хвілін і цікавых сустрэч.

### Прызы фестывалю

У рамках фестывалю пройдзе конкурс мастацкай самадзейнасці вобласці ў розных жанрах. Арганізатар фестывалю, Мінскі аблвыканкам, вызначыў прызы для пераможцаў, якімі будуць 3 баяны (за 3 першыя месцы), 3 відэакамеры (за 3 другія месцы), 6 музычных цэнтраў (за трэція месцы і спецыяльныя прызы).

### Госці фестывалю

Сярод гасцей фестывалю будуць нашы землякі – ураджэнец вёскі Цынцавічы на Вілейшчыне рэктар Акадэміі музыкі Міхась Казінец, народная артыстка Беларусі, ураджэнка Мядзела Марыя Захарэвіч, мастацкі кіраўнік Нацыянальнага акадэмічнага хору імя Генадзя Цітовіча Міхась Дрынеўскі.

Мікола ГАЙДУК.



Сцэна Маладзечанскага палаца культуры – лепшая ў Мінскай вобласці. Магчыма, таму тут рэгулярна праводзяцца культурныя мерапрыемствы абласнога і нацыянальнага характару. Самым значным сёлета быў фестываль нацыянальнай паэзіі і песні "Маладзечна–2003". Адкрываў яго на сцэне палаца беларускі фальклорны ансамбль з Цюмені (Расія) "Вячоркі".

Фота Аляксандра Манцэвіча.

■ ЮБІЛЕІ

# «Іду са словам да людзей»

**ВІЛЕЙКА. 10 лістапада спаўняецца 70 гадоў віляйчаніну, паэту, члену Саюза пісьменнікаў Беларусі Івану Лашутку.**

Нарадзіўся будучы паэт 10 лістапада 1933 года ў вёсцы Баяры непадалёк ад Ільі.

Сярэднюю адукацыю адабываў у Ільянскай школе, мераючы штодзённа па 7 кіламетраў дарогі ў адзін бок. Вучні мусілі за вучобу плаціць 150 рублёў у год. "Гэта па тым часе было складанай праблемай для сямейнага бюджэту", – успамінае паэт. Калгаснае пасляваеннае жыццё было жабрацкім. Сям'я атрымлівала 1–2 мяхі збожжа за цэлы год цяжкай працы. І лустачка хлеба лічылася найсмачнейшым ласункам для дзяцей.

Першыя яго вучнёўскія вершы з'явіліся ў Ільянскай раёнцы ў год заканчэння школы. Таму ў чэрвені 1952 года выпускніка Лашутку запрасілі на працу сакратаром рэдакцыі палітаддзела Ільянскай МТС. У наступным годзе ён паступіў на філфак Беларускага дзяржаўнага універсітэта.

Тады ў сценах БДУ вышыні навукі штурмавалі будучыя майстры беларускай літаратуры: Вячаслаў Адамчык, Ніл Гілевіч, Іван Пташнікаў, Адам Мальдзіс, Анатоль Клышка, Кастусь Цвірка, Рыгор Барадулін, Генадзь Бураўкін, Іван Чыгрынаў...

Маладога настаўніка з універсітэцкай адукацыяй накіравалі на Вілейшчыну, у Раёўку. Месца яму лепшае і не снілася. Але ён саступіў гэтую школу маладой незнаёмай сям'і, а сам паехаў асвойваць ніву асветы у Латыгаль, што згубілася сярод балотных імшараў. Там Іван Іосіфавіч раскрываў вучням непаўторную прыгажосць роднага слова. Там ён сустрэў сваё глыбокае каханне, свой лёс – на ўсё жыццё.

У 1972 годзе яго пераводзяць у Вілейку інспектарам раённага аддзела адукацыі, пазней ён працаваў намеснікам дырэктара СШ№3, адкуль і выйшаў на пенсію.

14 гадоў працы ў Латыгалі – сапраўдны універсітэт асвaення праўды тагачаснага савецкага жыцця, ачышчэння ад ідэалагічнага павуціння. На самой справе ў вёсцы калгасніку не атрымлівалі справядлівага заробку і пенсій. Назапасіць на зіму дроў ці накасіць сена было праблемай з праблем. Ды і заробкі інтэлігенцыі былі ніжэйшымі, чым у рабочых.

Татальна душылася мова беларускага народа. Нацыянальная культура станавілася экзатычнай рэдкасцю. Беларускамоўныя школы і вышэйшыя навучальныя ўстановы знішчаны былі дашчэнту, украдзена наша гісторыя. Нацыянальна свядомую інтэлігенцыю бальшавікі расстралялі яшчэ ў канцы 20–х гадоў дваццатага стагоддзя.

Вось гэтыя высновы пра барацьбу дабра і зла ў жыцці былі зроблены Іванам Іосіфавічам, калі ён "сціраў грані паміж вёскай і горадам" у Латыгалі. Пачынаючы з 1972 года, вершы Івана Лашуткі пачалі ўпэўненую хаду па старонках газет і часопісаў. Паэт дасягнуў тады мудрай сталасці і багатага жыццёвага вопыту. Набліжаліся, па яго словах, "саракі", калі "жыцця мінае раўнадзенства".

Як педагог і паэт, Іван Лашутка не можа раўнадушна сузіраць, як співаецца народ, як катастрафічна рушыцца мараль і як расце колькасць сірот пры жывых бацьках. У вершы "Бацькі і дзеці" аўтар з горыччу адзначае, што

Мінулы год – адметны будзе год:<br>
Не лiўнямі, не бурамі праклятымі,<br>
А колькасцю раскіданых сірот<br>
Пераўзышоў ваенны сорак пяты.

У 1992 годзе ў выдавецтве "Мастацкая літаратура" выйшаў першы зборнік вершаў паэта "Свята двaіх", які ўвабраў у сябе пачуцці захаплення і павагі да роднага краю і яго блiскучай гісторыі. Зборнік быў адзначаны спецыяльным прызам Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі. На беларускім тэлебачанні адбылося выступленне



Паэт Іван Лашутка можа лічыць сябе шчаслівым, бо шматлікія вершы яго сталі жыць у песні – набылі шырокую вядомасць.

Фота з сямейнага альбома Івана Лашуткі.

аўтара. Але самай дарагой узнагародай паэт лічыць словы Пімена Панчанкі, які горача сустрэў і высока ацаніў мастацкую вартасць яго лірыкі. 31 мая 1996 года Івана Лашутку прынялі ў Саюз пісьменнікаў.

У 2000 годзе ў выдавецтве "Беларускі кнігазбор" убачыў свет зборнік вершаў паэта "Край верасоў". Многія з вершаў сталі папулярнымі песнямі. Візітоўкай зборніка з'яўляецца песня "Край мой верасовы", у якім цудоўным рэфрэнам гучыць прыпеў як клятва ў любві да роднай зямлі:

Край мой верасовы, дзе радзіўся я,<br>
Сёння прабудзіўся песняй салаўя,<br>
Ты са мной у сэрцы, любая мая –<br>
Родная бацькоўская зямля.

Іван Лашутка сэрцам вітаў знакавыя з'явы роднай літаратуры і пісаў рэцэнзіі на творы Васіля Быкава, Генадзя Бураўкіна, Івана Пташнікава, Алеся Ставера, Івана Шамякіна... З-пад яго пяра выйшаў і рад развaжанняў на педагагічныя тэмы. Ён – аўтар літаратурна-публіцыстычных артыкулаў, апавяданняў.

На парозе свайго 70–годдзя паэт поўны творчых сіл, цікавых задум і здзяйсненняў.

Аляксандр НАРКЕВІЧ.

## Сцэнарны план III фестывалю народнага мастацтва "Напеў зямлі маёй"

**31 кастрычніка, Палац культуры горада Маладзечна**

15.00–15.20 – урачыстае адкрыццё фестывалю:
- пазыўныя фестывалю;
- прывітальныя словы вядучых;
- выступленні старшыні Мінаблвыканкама Мікалая Дамашкевіча, міністра культуры Леаніда Гуляко, старшыні журы народнага артыста Савецкага Саюза Ігара Лучанка, старшыні Маладзечанскага гарвыканкама Мікалая Чурсіна;
- прадстаўленне ганаровых гасцей, членаў аргкамітэту і журы фестывалю.

15.20–17.00 – конкурсныя выступленні найлепшых аматарскіх калектываў Мінскай вобласці.

17.30–18.00 – канцэртная праграма Нацыянальнага акадэмічнага народнага аркестра імя Жыновіча (мастацкі кіраўнік народны артыст Рэспублікі Беларусь Міхаіл Казінец).

18.00–18.40 – канцэртная праграма Нацыянальнага акадэмічнага народнага хору Рэспублікі Беларусь імя Цітовіча (мастацкі кіраўнік народны артыст Рэспублікі Беларусь Міхаіл Дрынеўскі).

18.40–19.30 – падвядзенне вынікаў фестывалю, узнагароджванне пераможцаў.

Аргкамітэт.

■ ЗАМЕЖЖА

## Спявалі «Васілёчкі»

**У Варшаве прайшоў XII агляд дасягненняў у культурным развіцці нацыянальных і этнічных меншасцей «Супольнасць у культуры». Ганаровы патранаж над мерапрыемствам ажыццяўлялі міністр культуры Польшчы, маршал Мазавецкага ваяводства, прэзідэнт Варшавы.**

Як паведамілі БелаПАН у прэс-службе беларускага МЗС, 23 кастрычніка Надзвычайны і Паўнамоцны пасол Беларусі ў Польшчы Павел Латушка прыняў удзел у аўтарскім вечары вядомых беларускіх паэтаў Польшчы Яна Чыквіна і Галіны Тварановіч, які адбыўся ў Цэнтры славянскай культуры. На вечары прысутнічалі прадстаўнікі грамадскасці Варшавы, пісьменнікі, паэты, выкладчыкі ВНУ, дзеячы беларускага руху ў Польшчы, студэнты, журналісты.

Вядучым вечара быў вядомы польскі даследчык славянскіх літаратур, прафесар Ольштынскага універсітэта Базыль Белаказовіч. Ён расказаў аб жыццёвым і творчым шляху аўтараў. Ён таксама распавёў аб дзейнасці аднаго са старэйшых літаратурных аб'яднанняў Польшчы — беларускага літаб'яднання «Белавежа», старшынёй якога з'яўляецца прафесар Беластоцкага універсітэта Ян Чыквін. Прагучалі вершы ў выкананні аўтараў і ўдзельнікаў мерапрыемства. У выступленнях прысутных адзначалася, што беларускі літаратурны рух у Польшчы з'яўляецца унікальнай з'явай і значна ўзбагачае як уласна беларускую, так і польскую літаратуры. Тым самым памнажаецца іх уклад у развіццё еўрапейскай літаратуры.

Адбыліся гутаркі пасла з прадстаўнікамі беларускай нацыянальнай меншасці ў Варшаве, ён даў інтэрв'ю беларускай рэдакцыі Польскага радыё.

У рамках XII агляду дасягненняў у культурным развіцці нацыянальных і этнічных меншасцей «Супольнасць у культуры» 25 кастрычніка ў Варшаве з канцэртам выступіў хор беларускай песні з Бельска Падляшскага «Васілёчкі».

Андрэй СЕРАДА, БелаПАН.

 



■ **ВЫТВОРЧАСЦЬ**

# З жыццём у нагу

**МАЛАДЗЕЧНА. Прыемная навіна прыйшла на ААТ "Белмастацкераміка". Падчас беларускіх дзён у расійскай сталіцы керамічныя вырабы прадпрыемства ішлі, па словах намесніка дырэктара Леаноры Кульбіцкай, нарасхват.**

Аказваецца, з Мінска, Магілёўскай, Гомельскай і Гродзенскай абласцей былі прадстаўлены вырабы керамічнага завода з Радашкавіч. Безумоўна, такая вестка не магла не выклікаць задавальнення, гонару рабочых і кіраўніцтва прадпрыемства.

Гэтую прыгажосць ствараюць мастакі Аляксей Паддубны, галоўны мастак, ягоная жонка загадчыца лабараторыі Нэла Пятроўна, самабытны самавучка Валерый Бусараў, непаўторны Леанід Грыцкоў, якія не адзін год твораць, распрацоўваюць цікавыя і прыгожыя рэчы і ў якіх хапае адчування элегантнасці, лёгкасці формы, народнасці.

Нельга не прыгадаць тых, хто непасрэдна стварае сонечную прадукцыю, сувеніры, фальклорны асартымент, тавары быту. Яны ўласнымі рукамі ўвасабляюць задумы мастакоў. Выдзяляюцца сваёй працай і густам брыгадзіры Тамара Хадасевіч, Людміла Кузіна, абедзве апраўшчыцы. Умелыя рукі Тамары Клімовіч, Валянціны Якімовіч ладзяць глазуроўку, а Валянціна Багданава, Аляксандр Бакун, Ларыса Гарбуз размалююць выраб так, што ён зайграе ўсімі колерамі вясёлкі. Гліна літаральна ажывае, набывае патрэбныя формы ў чароўных руках умельцаў. А вось мастак-самавучка, мадэльшчык Валерый Бусараў паказаў сябе на ганчарным крузе. Ён удзельнічаў у многіх рэспубліканскіх выставах, у Маскве, Свярдлоўску. У Доме работнікаў мастацтва прайшлі яго асабістыя выставы. Валера працуе ў школе мастацтваў мястэчка Радашкавічы, вучыць рамяству хлопчыкаў і дзяўчынак, якім падабаецца чараўніца-гліна.

Трэба пагадзіцца з тым, што без адпаведнай базы, без клопату з боку кіраўніцтва, спрыяльных умоў "чарадзеі чырвонай гліны" не змаглі б здзейсніць свае мары. Галоўны кераміст, начальнік цэха Аляксандр Грудзінка спрыяе іх працы. Керамічны цэх па вырабу прывабнай прадукцыі не зніжае тэмпаў і аб'ёмаў вытворчасці. Асартымент з кожным годам абнаўляецца, папаўняецца заводскі музей зорным россыпам.

— У нас не толькі сонечная, прыгожая прадукцыя, — заўважае Часлава Рудкоўская, старшыня прафкама, — наша "Белмастацкераміка" вызначаецца чысцінёй як у цэхах, на тэрыторыі завода, так і вакол прадпрыемства. Асабліва хораша і маляўніча перад галоўным будынкам. Тут, як той казаў, ні саломінкі, ні трэскі не ўбачыш. Зялёны, квяцісты сквер і герб Радашкавічаў удала аздабляюць наша мястэчка.

Гонар і клопат дырэктара завода Мікалая Кладава, як тут жартуюць, — "Чырвоная плошча". Уздоўж асфальтавай дарогі, цэнтральнай вуліцы мястэчка, што пралягае каля "Белмастацкераміკі", пакладзены з чырвонай пліткі пешаходны шырокі ходнік.

У гэтай карыснай справе прынялі ўдзел мэр пасёлка, служба ЖКГ, прадпрымальнік Сяргей Явід, дырэктар унітарнага прадпрыемства "Зелянбуд Броўкі" Пётр Шастак. Гэтую добрую дарогу для радашкаўцаў ухваліў і падтрымаў раённы кіраўнік Сямён Касабуцкі.

Варта адзначыць і тое, што на прадпрыемстве працуюць таварная і харчовая крамы, сталоўка, пральня. Ёсць уласны медпункт. Амаль усе працаўнікі жывуць ў добраўпарадкаваных кватэрах. Прыйшоў у хаты і прыродны газ. Словам, як выказалася Часлава Яўгенаўна, крочым з жыццём у нагу.

Будзе не поўная інфармацыя, калі не сказаць пра культурны побыт "Белмастацкерамікі". Ёсць крытая прыгожая сцэна, прасторная актавая зала. Сюды прыязджаюць знакамітыя творцы, вучоныя, музыканты, артысты. Людзі добра памятаюць Максіма Танка, Ніла Гілевіча, Адама Мальдзіса, Янку Брыля, Вадзіма Гарэцкага, Сяргея Законнікава, Генадзя Бураўкіна, Алеся Пісьмянкова і іншых. Яны заваражылі сэрца кабетаў, бо большасць рабочых – жанчыны. Не раз бывалі Ціхановіч з Паплаўскай, артысты з Расіі. Не так даўно выступалі чэшскія віртуозы-цыркачы аж з самой Прагі.

ААТ "Белмастацкераміка" перажывае не лепшыя часы, ёсць шмат праблем, але не збочвае з дарогі, крочыць запланаваным курсам.

**Сымон БЕЛЫ-МІЦКЕВІЧ, заслужаны настаўнік РБ, пісьменнік.**




**Зялёны, квяцісты сквер і герб Радашкавічаў, устаноўлены акурат насупраць ААТ "Белмастацкераміка", удала аздабляюць мястэчка.**

Фота Сымона БЕЛАГА.

## Дадатковыя рэйсы

**Прыгарадныя дызель-цягнікі**

7, 8 лістапада – як па суботах,
7 лістапада – дадаткова Маладзечна-Багданаў адпраўленнем у 7.32,
9 лістапада – як па нядзелях.

**Электрацягнікі**

6 лістапада – як па пятніцах,
7, 8 лістапада – як па суботах,
9 лістапада – як па нядзелях.

## Расклад руху пасажырскіх цягнікоў па ст. Маладзечна з 1 лістапада 2003 года

| № цягніка | Маршрут | Адпр. з пачатк. станцыі | Па ст. Маладзечна прыб. | ст. | адпр. | Прыб. на кан. станцыю | Дні курсіравання |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 281 | Унеча-Гродна | 12.36 | 0.40 | 4 | 0.44 | 5.51 | няцот. |
| 683 | Віцебск-Гродна | 18.00 | 0.40 | 4 | 0.44 | 5.51 | па цот. |
| 29 | Масква-Калініград | 14.05 | 0.54 | 3 | 0.57 | 11.15 | штодзённа |
| 150 | Калінінград-Масква | 15.16 | 1.44 | 3 | 1.47 | 15.29 | па няцотн. |
| 286 | Калінінград-Гомель | 18.18 | 4.24 | 3 | 4.27 | 11.15 | па цот. |
| 77 | Масква-Гродна | 16.54 | 4.44 | 6 | 4.50 | 10.11 | штодзённа |
| 288 | Рыга-Гомель | 18.10 | 5.10 | 25 | 5.35 | 12.51 | па няцот. |
| 5 | Масква-Каўнас | 19.01 | 5.20 | 3 | 5.23 | 11.00 | штодзённа |
| 676 | Полацк-Мінск | 0.56 | 5.46 | 27 | 6.13 | 8.10 | штодзённа |
| 149 | Масква-Калінінград | 19.16 | 6.35 | 4 | 6.39 | 17.16 | па цот. |
| 203 | Мінск-Вільнюс | 6.33 | 7.53 | 5 | 7.58 | 11.05 | па ср., пт., ндз. |
| 200 | Вільнюс-Мінск | 6.26 | 9.12 | 3 | 9.15 | 10.31 | штодзённа |
| 79 | С.-Пецярбург-Калінінград | 18.13 | 9.26 | 18 | 9.44 | 20.09 | па няцот. |
| 128 | Гродна-Мінск | 6.36 | 10.45 | 4 | 10.49 | 12.00 | штодз., безперасадны вагон Гродна-С.-Пецярбург, па няцот. |
| 127 | Мінск-Гродна | 16.16 | 17.28 | 3 | 17.31 | 22.03 | штодзённа |
| 675 | Мінск-Полацк | 17.08 | 18.29 | 26 | 18.55 | 23.29 | штодзённа |
| 204 | Вільнюс-Мінск | 16.10 | 19.06 | 4 | 19.10 | 20.33 | па ср., пт., ндз. |
| 201 | Мінск-Вільнюс | 18.17 | 19.44 | 3 | 19.47 | 22.40 | штодзённа |
| 30 | Калінінград-Масква | 9.53 | 20.08 | 4 | 20.12 | 9.30 | штодзённа |
| 6 | Каўнас-Масква | 15.15 | 20.54 | 3 | 20.57 | 9.37 | штодзённа |
| 211 | Харкаў-Калінінград | 0.50 | 12.12 | 5 | 21.17 | 7.52 | па няцот. |
| 282 | Гродна-Унеча | 15.30 | 21.20 | 5 | 21.25 | 11.43 | па няцот. |
| 684 | Гродна-Віцебск | 15.30 | 21.20 | 5 | 21.25 | 5.03 | па цот. |
| 80 | Калінінград-С.-Пецярбург | 11.38 | 21.59 | 17 | 22.16 | 13.48 | па няцот. |
| 78 | Гродна-Масква | 16.47 | 22.13 | 4 | 22.17 | 11.02 | штодзённа |
| 287 | Гомель-Рыга | 15.38 | 22.30 | 25 | 22.55 | 10.12 | па няцот. |
| 212 | Калінінград-Харкаў | 12.48 | 23.09 | 5 | 23.14 | 19.26 | па цот. |
| 285 | Гомель-Калінінград | 16.46 | 23.42 | 5 | 23.47 | 10.11 | па цот. |

## Расклад руху электрацягнікоў па ст. Маладзечна з 1 лістапада 2003 года

| Маладзечна адпр. | Мінск прыб. | без прып. | Мінск адпр. | Маладзечна прыб. | |
|---|---|---|---|---|---|
| **4.32** | 6.16 | Сел., Крын., Прал. | **4.37** | 6.12 | |
| **5.21** | 7.10 | | **5.21** | 7.07 | |
| **5.48** | 7.40 | Сел., Крын. | **6.39** | 8.17 | |
| **6.30** | 8.18 | | **7.33** | 9.28 | |
| **7.26** | 9.19 | | **8.20** | 10.09 | |
| **8.50** | 10.50 | | **8.58** | 10.46 | |
| **9.43** | 11.35 | | **10.00** | 11.51 | |
| **10.58** | 12.49 | | **11.11** | 12.59 | |
| **12.07** | 13.48 | птн., вых., Рам., Хмел., Зял., Крыж. | **12.38** | 14.27 | |
| **12.46** | 14.36 | | **13.34** | 15.23 | |
| **13.52** | 15.42 | | **14.58** | 16.38 | птн., вых. |
| **15.08** | 16.59 | | **15.31** | 17.20 | |
| **15.51** | 17.42 | | **16.34** | 18.22 | |
| **16.53** | 18.44 | | **17.34** | 19.21 | |
| **17.46** | 19.34 | | **18.35** | 20.22 | |
| **18.37** | 20.25 | | **19.16** | 21.04 | |
| **19.52** | 21.39 | Леб. | **20.36** | 22.23 | |
| **20.37** | 22.35 | Леб. | **22.01** | 23.42/23.51 | |
| **22.24** | 23.57 | Сел., Рам., Прал., Хмел., Зял., Крыж., М.Мора, Леб. | **23.47** | 1.14 | |

## Расклад руху прыгарадных цягнікоў па ст. Маладзечна з 1 лістапада 2003 г.

| | Маладзечна адпр. | Гудагай прыб. | дні курсір. | | Гудагай адпр. | Маладзечна прыб. | дні курсір. |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | **8.42** | 10.28 | штодз. | | **5.25** | 7.12 | штодз. |
| | **13.09** | 14.54 | вых. | | **10.43** | 12.25 | штодз. |
| | **15.53** | 17.38 | штодз. | | **15.18** | 17.05 | вых. |
| | **18.03** | 19.52 | штодз. | | **17.55** | 19.38 | штодз. |
| | **20.43** | 22.32 | штодз. | | **20.09** | 21.50 | штодз. |
| | **Маладзечна** | **Ліда** | | | **Ліда** | **Маладзечна** | |
| | **8.35** | 11.42 | штодз. | | **3.52** | 7.00 | штодз. |
| | **12.41** | 15.53 | вых. | | **9.09** | 12.18 | штодз. |
| | **17.51** | 20.56 | штодз. | | **12.18** | 15.26 | вых. |
| | **20.32** | 23.42 | штодз. | | **16.19** | 19.27 | штодз. |
| | **Маладзечна** | **Крулеўшчына** | | **Крулеўшчына** | | **Маладзечна** | |
| Параф. | **7.20** | 9.20 | ндз. | | **4.40** | 7.00 | штодз. |
| Пол. | **8.30** | 10.50 | штодз. Пол. 13.00 | Параф. | **9.38** | 11.36 | ндз. |
| | **12.35** | 14.56 | вых. | | **15.14** | 17.38 | вых. |
| Глыб. | **20.36** | 22.57 | штодз. Глыб. | Пол. | **17.09** | 19.35 | штодз. Пол.14.42 |
| | | | | Пол. | **18.49** | 21.20 | пятн. Пол.16.47 |

■ **НАВІНЫ БЕЛАРУСІ**

## Гінуць людзі ў агні

**Толькі за адны суткі ў Беларусі зарэгістраваныя 42 пажары, урон ад якіх склаў 27 мільёнаў рублёў. Агнём знішчана сем пабудоў, яшчэ 23 пабудовы пашкоджаны падчас пажараў. Ахвярамі ўзгаранняў сталі 4 чалавекі — жыхары Гомеля і сельскіх населеных пунктаў Брэсцкага, Ляхавіцкага і Карэліцкага раёнаў.**

З-за кароткага замыкання, якое адбылося ў тэлевізары, узнік пажар у прыватным жылым доме ў вёсцы Блювінічы Брэсцкага раёна. Пажар убачылі жыхары вёскі, аднак выратаваць гаспадыню дома, 69-гадовую пенсіянерку, не змаглі.

Раніцай быў выяўлены пажар у вёсцы Пясочная Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці. Гарэў жылы дом, унутры якога знаходзіўся 61-гадовы пенсіянер. Мужчына атруціўся чадным газам і загінуў на месцы пажару.

Неасцярожнасць пры курэнні стала прычынай пажару ў вёсцы Малое Падлессе Ляхавіцкага раёна Брэсцкай вобласці. Пры пажары загінуў 40-гадовы рабочы Баранавіцкага рамонтна-будаўнічага завода, гаспадар дома.

На дадзены момант высвятляецца прычына яшчэ аднаго пажару, які прывёў да гібелі чалавека. Мінулай ноччу падраздзяленнямі МНС быў ліквідаваны пажар у жылым доме ў Гомелі, падчас якога загінуў 50-гадовы гаспадар дома, беспрацоўны.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ, БелаПАН.**

 

# Памятае Сэрвач!

**Па Беларусі, Расіі і Украіне населеных пунктаў з тапанімічнай назвай "Крывічы" вядома больш за 20.**

Найбольшых вяршынь дасягнулі Крывічы Мядзельскія. Паселішча на правым беразе ракі Сэрвач вядома з XII стагоддзя. Існуе такая легенда: "Даўным-даўно на беразе Сэрвачы, дзесьці ў трох вярстах ад Крывічоў, стаяў замак. Там жыў князь з племені крывічоў. Прыйшоў ён з Поўначы разам са сваім племем і заснаваў замак, а ў трох вярстах пасяліў сваіх падданых, і назвалі яны тое месца Крывічы". Але нейкай суцэльнай гісторыі Крывічоў няма, толькі асобныя, фрагментарна-эпізадычныя звесткі-замалёўкі ў рознай літаратуры: энцыклапедыях, слоўніках і інш. Іх можна было б сабраць і аб'яднаць, і цікава было б, але для гэтага патрэбны абавязковыя паездкі ў архівы за мяжу (у Вільнюс, Санкт-Пецярбург, Маскву, Варшаву...) і вывучэнне-даследаванне адпаведных гістарычных дакументаў-звестак. З шасцітомнага выдання гістарычнай энцыклапедыі Беларусі вядома, што каля 1640 года ў Крывічах пабудавана Свята-Троіцкая царква, а ў 1777 годзе – касцёл Святога Андрэя. У 1884 годзе тут існаваў нават бровар (вінаробчы завод). А ў 1886 годзе ў Крывічах была валасная ўправа, касцёл, царква, капліца, багадзельня, тры крамы, тры заезныя дамы, карчма, школа і народнае вучылішча. Два разы на год праводзіліся вялікія і мнагалюдныя кірмашы. А на пачатку XX стагоддзя будуецца чыгунка на Полацк і з'яўляецца прыпынак з вакзалам "Крывічы". У часы першай сусветнай вайны тут праходзілі межы знакамітай Нарачанскай аперацыі, а пераважна ў Крывічах былі складскія часці рускіх войскаў.

Па Рыжскім дагаворы 1921 года заходнія землі Беларусі адыходзілі пад Польшчу, і ў Крывічах зноў з'явілася новая ўлада – польская. Крывічы сталі цэнтрам гміны, а яго жыхары зноў апынуліся ў цяжкім становішчы. Пілсудчыкі толькі абвяшчалі роўныя законы і ўмовы жыцця для палякаў і беларусаў. Але такога нідзе не было. Паны здзекаваліся. "Быдла" – так называлі яны беларусаў. Душылі падаткамі. Усё нацыянальнае строга праследавалася. У суседніх Вілейцы і Маладзечне з'явіліся турмы, а ў Бярозе-Картузскай (пад Брэстам) нават... першы ў Еўропе канцлагер. У 1932 годзе ўрад Польшчы выдаў указ, які забараняў карыстацца лугамі і выпасамі жывёлы. Другі ўказ забараняў лавіць рыбу ў рэках і азёрах, бо яны сталі ўласнасцю новай улады, а не жыхароў мястэчка і навакольных вёсак. Каб неяк жыць і плаціць падаткі (а было іх каля 20), яны вымушаны былі браць крэдыты. І пісьмо крывічан 1933 года ў газету "Барацьба" добра адлюстроўвае тое становішча: "Кожны з нас думаў, што, прадаўшы што-небудзь або зарабіўшы на старане, можна будзе вярнуць пазыку. Але ўсё выйшла інакш, цэны ўпалі, заробкаў няма. Цяпер, каб аддаць гэтую суму, трэба прадаць усю гаспадарку. Цяпер ніхто не плаціць, бо няма чым. Кожны гадае, што будзе далей". А нарастаў рэвалюцыйны рух. Крывічане, як і ўвесь беларускі народ, былі ўпэўненыя: "Расія працягне руку, дапаможа вызваліца ад іншаземнага гнёту!".


Восеньскім днём у Крывічах. Фота Юрыя КАРПІЦКАГА.

У свеце ўжо вітаў дух другой сусветнай вайны. У 1939 годзе Чырвоная армія ўзяла пад абарону народ Заходняй Беларусі. Так Крывічы з польскіх зноў сталі савецкімі і ўвайшлі ў састаў БССР. У Крывічы прыйшла новая ўлада – саветы. І зусім не выпадкова, што цэнтральная вуліца Крывічоў носіць імя 17 Верасня. Мястэчка стала цэнтрам раёна, а з 1958 года – гарадскім пасёлкам. З'явіліся адпаведныя структуры: прамкамбінат, Дом культуры, школа – музычная і сярэдняя, маслазавод і хлебазавод, рэдакцыя газеты і мясцовае радыё... Крывічы былі вельмі "жывым арганізмам", нават з рэстаранам.

У добрым сяброўстве ў Крывічах жылі прадстаўнікі розных канфесій, рускія і беларусы, яўрэі і татары. Сёння Будслаў стаў цэнтрам духоўнага жыцця каталікоў, а перш – гэта былі Крывічы, з вядомымі на ўсю акругу, прыгожымі і мнагалюднымі фэстамі. Кожную нядзелю тут збіраўся вялікі кірмаш. Але ў 1962 годзе Крывіцкі раён дзеліцца паміж Вілейскім і Мядзельскім, і Крывічы апынуліся ў складзе Мядзельскага раёна. Усе раённыя структуры распаліся. І сёння гэта толькі цэнтр сельсавета. Будынак райкама стаў паліклінікай, а райвыканкама – бальніцай. Засталіся пошта, хлебазавод і маслазавод, дзіцячы сад, сярэдняя школа і спецыяльная. Прамкамбінат стаў заводам металічных вырабаў і ўвайшоў у склад нацыянальнага парку "Нарачанскі". Сёння гэта адзінае ў Крывічах прадпрыемства, што працуе ўпэўнена і стабільна, і ўладкавацца на працу сюды – прэстыжна.

У прыродзе ўсё ўзаемазвязана, а людзі пачалі ўмешвацца не ў свае, а яе законы. І пачаліся экалагічныя катаклізмы-катастрофы. Барацьба за павелічэнне пасяўных плошчаў прывяла да асушэння балот. Стала менш птушак і жаб, больш розных мошак і каларадскага жука. Здзіўляюся, як яшчэ Сэрвач не паспелі павярнуць назад?! Мы не ведалі і слова – электравуда. Бо рыбы і ракаў было – толькі лаві, не ляніся: шчупакі, язі, плоткі... А неяк вясной убачыў у Крывічах такі малюнак: каровы, як алені ў тундры, са снегу капытамі дабывалі траву. Адразу падумалася, што, напэўна, нейкая новая методыка ў жывёлагадоўлі. "Не, — кажа пастух, — проста сена не хапае!". І куды ўсё падзелася? Такія былі сенакосы, асабліва на левым, заліўным беразе Сэрвачы!

Але не ўсё так дрэнна, сумна і безнадзейна. Крывічы жывуць, з'яўляюцца ўсё новыя і новыя дамы і вуліцы. І моладзі тут шмат таленавітай, шмат розных іншамарак. А галоўны здабытак Крывічоў – людзі. Нерастрачаныя яшчэ іх пяшчота і мудрасць, шчырасць і сумленнасць.

**Мечыслаў СТАНКЕВІЧ, былы жыхар г.п.Крывічы.**

■ БЫЛЬ

## Тройчы «хрышчаная»

На балаціне паблізу сённяшняй вёскі Галубенькі быў невялікі пагорак, на якім жылі нашы далёкія продкі. Вядома, праз пэўны час стала тут цеснавата, людзі пачалі рассяляцца. Адна сям'я з абжытага гарадзішча падалася на захад, у лясістую мясцовасць. Тут раслі дубы, клёны, бярозы. Навасёлы збудавалі хаціну. А калі праз год-другі наведалі бацькоў, у іх пыталіся:

—Якія лясы там у вас? Як іх называеце?

—Каб ельнікі ў нас раслі, а то толькі ёсць бярэзнікі, асіннікі, ёсць дубы, ясені.

—Вы яшчэ не прыдумалі назву свайму паселішчу? Дык назавіце Кабельнікі.

Першапачатковая назва Кабельнікі праіснавала доўгі час. І пра гэта ўспамінаецца ў раённай кнізе "Памяць".

Разбудаваліся Кабельнікі. Сталі наладжвацца кірмашы, бо вёска знаходзілася на перакрыжаванні дарог на ўсе напрамкі. Часта сюды наведваліся здалёку купцы. Адзін з іх, убачыўшы ў селяніна пародзістую кабылу, папрасіў прадаць яе – хацеў дома заняцца конегадоўляй. Заплаціў немалыя грошы. Гэта бачылі суседзі. "А чаму б і нам не заняцца конегадоўляй, — казалі яны. – Будзем на кірмашы гандляваць, асабліва кабыламі.

Вестка, што ў Кабельніку гадуюць пародзістых кабыліц, разнеслася далёка. Купцы гаварылі не інакш, а толькі, што едуць за пакупкамі ў вёску Кабыльнік. Так з іх лёгкай рукі вёска памяняла назву.

У нашы дні адзін з кіраўнікоў установы ў Кабыльніку вельмі засмуціўся, калі ў сталіцы ў яго папыталіся:

—Ці ёсць у вас кабылы?

—Калгас гадуе кабыліц?

—Ці любіце кумыс – малако кабыл?

Падумаў той кіраўнік Кабыльніцкай установы як пазбегнуць у будучым жартаў, і прыдумаў перайменаваць вёску. Паслаў сваю прапанову ў сталіцу. Там палічылі, што ён выказвае думку многіх жыхароў населенага пункта. Быў прыняты указ аб перайменаванні Кабыльніка ў Нарач.

Потым доўга чулася такая размова паміж людзьмі: "Вы кажаце, што былі на Нарачы. У санаторыі "Нарач" ці ў Доме адпачынку "Нарач?"

Субяседніку прыходзілася ўдакладняць: "Быў у той Нарачы, якую раней называлі Кабыльнікам".

Адзін з жыхароў новаспечанай Нарачы даслаў у "Вожык" пісьмо, пералічыўшы ўсе "Нарачы", што існуюць у іх мясцінах. Там надрукавалі і падмацавалі сваім каментарыем. Мауляў, вельмі бедная фантазія ў некаторых чыноўнікаў, што не прыдумалі Кабыльніку іншай назвы як Нарач. А вось жыхары Пячонак, Целякоў,Качэргаў, Воргаў, Пузыроў і інш, што ў Мядзельскім раёне, і не думаюць, каб іх вёскі памянялі назвы. Прапрадзеды так назвалі свае паселішчы, дык няхай і надалей так называюцца.

**Міхась ЧАРНЯЎСКІ.**

■ ВЯДОМАЕ І НЕВЯДОМАЕ ІМЯ

## Аўтар «Паляўнічых апавяданняў» памёр у Ашмянах

Толькі не блытайце – не "Запісак паляўнічага", не Іван Тургенеў, а зусім іншы рускі літаратар. 22 сакавіка 1937 года ў Ашмянах памёр пісьменнік, аўтар падарожных нарысаў і апавяданняў В.Д.Карняйчук. На жаль, мала што вядома пра яго лёс, як і пра апошнія гады жыцця.

З Расіі Карнейчука відавочна выштурхнула непрыняцце новай улады. Ён быў удзельнікам грамадзянскай вайны на супрацьлеглым ад бальшавікоў баку. Таму літаратар падаўся ў вымушаную эміграцыю. Жыў спярша ў Варшаве, затым – у Вільні. Апошнія гады жыцця правёў у Ашмянах. Можа, хто са старажылаў ці з успамінаў папярэднікаў ведае пра гэтага чалавека?

Карняйчук, калі жыў у Заходняй Беларусі, друкаваў свае празаічныя і публіцыстычныя творы ў газетах "Наше время", "Русское слово", "Возрождение", "Иллюстрированная Россия". У 1930 годзе ў Варшаве пабачылі свет адразу дзве яго кнігі – "Паляўнічыя апавяданні" і "Сярод звярыных логаваў".

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ НАШ РЭГІЁН

## У далёкім чувашскім краі

Час вельмі жорсткі да памяці. Прыкладаў на тое прывесці можна незлічоную колькасць. На нашым вачах нараджаецца новы час. Адыходзіць у нябыт як месца творчага адпачынку і творчай працы пісьменнікі дом "Іслач", што паблізу Ракава. Тлумачэнні знаходзяцца: эканамічнае бязладдзе, адсутнасць у Літфонду і саміх пісьменнікаў патрэбных сродкаў.

А я думаю яшчэ і пра тое, што "Іслач", вартая мемарыялізацыі і ўшанавання, знікне і з архіваў гісторыкалітаратурнай памяці. А між тым...

А між тым Дом творчасці "Іслач" – прыкметнае месца і ў гісторыі літаратур іншых народаў.

Збіраючы матэрыялы пра беларуска-чувашскія літаратурныя стасункі, пазнаёміўся з паэтам, драматургам, празаікам Пятром Ялгірам. Сталага веку чалавек. Цяпер жыве ў сталіцы Чувашыі – Чэбаксарах. Заслужаны работнік культуры Чувашыі. Выдаў больш за 40 кніг паэзіі і прозы. На яго словы кампазітары склалі 250 песень. Зайздросныя творчыя здабыткі!

Свая повязь у Пятра Ялгіра і з Беларуссю, Валожыншчынай. Яшчэ ў 1976 годзе чувашскі літаратар пазнаёміўся з Рыгорам Барадуліным. Расказвае сам Пётр Ялгір:

— Я пераклаў на чувашскую мову вершы Рыгора Барадуліна "Дзень" і Петруся Макаля "Дружба". Творы былі надрукаваныя ў нашай рэспубліканскай газеце, а пасля і ў калектыўным зборніку беларускіх пісьменнікаў па-чувашску... Бываў і я ў Мінску, сустракаўся з Рыгорам Барадуліным, Антонам Бялевічам.

А ў 1982 годзе чувашскі пісьменнік завітаў на ракаўскую зямлю – у "Іслач". Штодня блукаў па сасновым лесе. Штодня дзівіўся чысціні Іслачы, паспытаў на сваё вусны яе прахалодную вадзіцу-смакату. І, канешне ж, пісаў. У Доме творчасці Пётр Ялгір асноўныя свае сілы аддаў рабоце над паэмай "Прыцягненне". Пра што гэты твор?.. Унутраны канфлікт маладога чалавека, які з вёскі трапляе ў горад. Жонка – гараджанка. Наладжаны гарадскі быт... А душы – неспакойна, трывожна. І вельмі ж цягне, бы магнітам, назад у вёску...

У "Іслачы" поруч з чувашскім калегам працавалі тады, у 1982 годзе, Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Алесь Бачыла.

Добра, што ў Чувашыі захавалася памяць пра Валожынскі край. А вось ці стане месцам мемарыялізацыі, ушанавання "Іслач" у самой Беларусі?..

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

■ ПАРТРЭТ

# Спорт высокага ўзроўню

**Змяшчаем апошнюю частку матэрыялу (папярэднія публікацыі былі 3-га і 17-га кастрычніка) пра баскетбалістак Юлію Дурэйку і Алёну Рынкевіч.**

У мінулым сезоне (2002-2003 гг.) каманда РВАР удзельнічала ў чэмпіянаце краіны, заняла 4 месца сярод 5 каманд. Матчы праходзілі амаль кожныя выхадныя з кастрычніка па май. Безумоўна, удзел у дарослым чэмпіянаце вельмі дапамог: было шмат матчаў, дзяўчаты набылі значны практычны досвед. Яны часта выходзілі ў складзе асноўнай пяцёркі. Аднак у той час, калі кадэткі непасрэдна рыхтаваліся да еўрапейскіх турніраў і трэнеры напрацоўвалі гульнявыя спалучэнні, Юлю выводзілі з асновы, пакідалі ў запасе.

Затое яе выклікалі ў нацыянальную зборную. Аб такой магчымасці папярэджвалі, але ўсё роўна сам выклік быў нечаканым. У чэрвені з тыдзень трэніраваліся дома, потым паехалі на турнір у Польшчу. Галоўны трэнер Анатоль Буяльскі дзеяннямі Дурэйкі застаўся задаволены.

Рыхтуючыся далучыцца ў Францыі да зборнай кадэтак, Юля і яшчэ адна дзяўчына 1986 г.н. (віцебчанка) трэніраваліся ў Смаргоні: то самастойна, то з маскоўскай камандай, якая тут праводзіла збор.

Для Лены, зразумела, лета было больш насычаным. Яна расказала, што ў Балгарыі паслля Турцыі і Францыі кадэткі літаральна "пампалі". Лена добрым словам успамінае выдатную падрыхтоўку, якую мела зборная перад гэтымі турнірамі. Калі б не сучасны прафесійны падыход да трэніровачнага працэсу, спартсменкі проста не вытрымалі б звышнапружання спаборніцтваў. Каманда была цалкам забяспечаная медыцынскім абслугоўваннем, з дзяўчатамі асобна працавала доктар. Хапала і вітамінаў, і дыягнастычных мерапрыемстваў.




Лена Рынкевіч (злева) і Юля Дурэйка (справа) са Смаргоні ўваходзяць у склад юніёрскай зборнай краіны па баскетболу. Фота Святланы ЦІШКО.

Безумоўна, з усіх праведзеных стартаў самым складаным быў фінальны сярод кадэтак у Турцыі. Калі дзяўчаты пабачылі каманды Іспаніі, Францыі, то не думалі, што яны ім па сілах. Але ж перамаглі і тых, і другіх. Толькі ў фінале не справіліся з югаслаўкамі.

Юля па амплуа цяжкі форвард, яе рост 178 см. Лена дзейнічае як лёгкі форвард, яна крыху вышэй – 182 см. На пляцоўцы абедзве звычайна дзейнічаюць на пазіцыі так званага трэцяга нумара, але могуць і адначасова знаходзіцца ў гульні.

Свет дзяўчаты ўжо пабачылі багата. Сёлета асвойвалі далёкае замежжа, а раней пабывалі ў Літве, Расіі, Украіне, Эстоніі. Па Парыжы прагульваліся за свой кошт, пабывалі ля Эйфелевай вежы і ў Дыснэйлэндзе. А вось у турэцкім Неўшахіры экскурсію наладзілі арганізатары. Лене яна вельмі спадабалася. Юля кажа, што запомніліся ўсе краіны, дзе пабывала, паўсюль прыгожа і цікава.

Сёлета былі значныя складанасці з тым, каб каманда РВАР заявілася на чэмпіянат краіны, бо вучылішча дагэтуль не аплаціла леташнi стартавы ўзнос. Пытанне было вырашана, але паездка на першыя матчы ў Гродна сарвалася з-за тых жа фінансавых праблем.

Юніёрская зборная за кошт сродкаў Міністэрства спорту і турызму ўдзельнічае ў спаборніцтвах Балтыйскай лігі. Там сабралася 16 каманд з пяці краін. На працягу сезона каманды адна з другой гуляюць адзін раз. Беларускі ў верасні ў Каўнасе гулялі з гаспадынямі: перамаглі "ЛККА-Каўнас" 71:62 (Дурэйка – 19 ачкоў, Рынкевіч – 0) і саступілі "Лайсве" 71:82 (Дурэйка і Рынкевіч – па 8 ачкоў). На мінулым тыдні ў Гродне сустракаліся з рыжанкамі: перамаглі юніёрак ТТТ 73:43, саступілі дарослам ТТТ 67:71 і "РТУ-Кландайцы" 57:82. Юля набрала ў гэтых матчах адпаведна 12, 9 і 7 ачкоў, а Лена не гуляла з-за траўмы. Цяпер зборная дзеліць 9-13 месцы, маючы 2 перамогі ў 5 матчах. Цікава, што такія ж паказчыкі ў двух астатніх беларускіх прадстаўнікоў: бабруйскай "Беразіны" і гродзенскай "Алімпіі".

Чарговы сезон толькі пачынаецца... **Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ВЫШЭЙШАЯ ЛІГА

## Макрыцкага не стрымалі

**Маладзечна-2000 – Тарпеда-СКА (Мінск) 0:3. 26 кастрычніка. 600 гледачоў. Суддзя Вярбіцкі.**

Галы: Навумаў (31-пен), Эду (35), Макар (87).

Склад: 1.Жылкін – 2.Ярмоленка, 4.Крывіцкі, 8.Альховік, 5.Афанасевіч – 6.Урублеўскі, 10.Вышынскі, 9.Дараховіч (18.Лявончык,55), 3.Кадол – 7.Лабанаў, 11.Хамутоўскі (13.Лабжанідзе,75).

Гаспадары распачалі гульню актыўна, стварылі некалькі пагроз, але праз паўгадзіны ўсё было скончана. Непасрэдны ўдзел у двух першых узяццях нашых варот прыняў Макрыцкі, які трывала замацаваўся ў складзе тарпедаўцаў і якога вельмі не хапала маладзечанскай камандзе ў другім крузе. Спачатку ён зарабіў даволі спрэчны пенальці для Навумава, а потым удала прайшоў па флангу і выдаў галявы пас бразільцу Эду. У канцоўцы матча госці дадалі лік да буйнога.

26.10. Гомель – Нёман 2:0, Шахцёр – Дынама (М) 1:1, БАТЭ – Днепр-Трансмаш 2:0, Зорка-ВА-БДУ – Лакаматыў 0:0, Дарыда – Дынама (Б) 3:0.

1. Гомель .................... 65
2. Дынама (М) ................ 61
3. Тарпеда-СКА ............. 58

...

16. Маладзечна-2000 ....... 15

Бамбардзіры: Бяганскі (БАТЭ) – 16; Блізнюк (Гомель) – 15, Карніленка (мінскае "Дынама") – 14.

Вельмі цікавая барацьба разгортваецца на фінішы чэмпіянату. Гамяльчане мелі адрыў у 7 ачкоў, потым ён паменшыўся да 2. Цяпер дынамаўцы страцілі ачкі ў Салігорску ("Шахцёр" дома не прайграваў больш за 3 гады) і ўжо далёка адпусцілі канкурэнтаў. У кожнага з двух лідэраў засталося па адным складаным матчы: гамяльчанам у перадапошнім туры прымаць "Тарпеда-СКА", а мінчанам у апошнім туры – БАТЭ.

З і 4 радкі ў табліцы маюць еўракубкавую значнасць. Барысаўчане нашмат адсталі ў першым крузе, але пасля 9 перамог запар нарэшце пакінулі 5 месца і блізкія да 2-га.

Унізе табліцы, бадай, вырашаны лёс "Маладзечна-2000", а яшчэ аднаго няўдачніка прадказаць проста немагчыма.

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ ФУТБОЛ, ПЕРШАЯ ЛІГА

## Пяціачковы разрыў застаўся

**Нёман (Масты) – Смаргонь 0:0. 25 кастрычніка. 300 гледачоў. Суддзя Пырэеў.**

Смаргонцы маглі выйграць, але чужыя вароты адчайна абараняў Шыдук. Вызначыліся абедзве каманды, якія ў будучым сезоне выступяць у вышэйшай лізе. Як усе прадказвалі яшчэ вясною, імі сталі мінскія абрэвіятуршчыкі і віцебскія чыгуначнікі.

**25.10. ЗЛІН – Ведрыч-97 0:5.**

1. МТЗ-РІПА ................... 66
2. Лакаматыў (В) ............ 64
3. Смаргонь ................... 54
4. Ведрыч-97 .................. 49

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

## Караблі ў басейне

**МАЛАДЗЕЧНА. Адкрытыя спаборніцтвы горада па суднамадэльным спорце прайшлі 25–27 кастрычніка. Акрамя маладзечанцаў, удзельнічалі хлопцы з Гомеля, Мінска, Светлагорска, Слуцка, Барысава, Салігорска.**

У першы дзень ацэньваліся стэндавыя копіі, іх знешні выгляд: акуратнасць выканання, якасць афарбоўкі, адпаведнасць арыгіналу. У гэтым відзе праграмы маладзечанцам не было роўных: першае месца заняў Раман Маслоўскі, другое – Валодзя Лашук, трэцяе – Аляксандр Пешкур. Ходавыя якасці мадэляў спартсмены дэманстравалі ў нядзелю ў басейне СШ №14. Усе копіі караблёў і катэраў могуць пераадолець адлегласць, роўную даўжыні басейна. Таму тут ацэньваецца дакладнасць руху: чым большае адхіленне, тым менш даецца балаў. Пераможцы вызначаюцца асобна ў розных класах у залежнасці ад даўжыні мадэлі і спосабу перамяшчэння (самаходная ці кіруецца па радыё). Першыя месцы занялі Гардзей Слагада (Салігорск), Аляксей Шышко (Слуцк), Аляксей Хныкаў (Мінск) і Міхаіл Шыловіч (Слуцк). Маладзечанцы Дзяніс Парцін і Сяргей Варатынскі ўзняліся на другую прыступку. Каманда горада Маладзечна ў агульнакамандным заліку таксама заняла другое месца, прайграўшы Мінскаму палацу дзяцей і моладзі 0,46 бала.

**Святлана ЦІШКО.**



Сяргей Варатынскі з Маладзечна на адкрытых спаборніцтвах горада па суднамадэлізму заняў другое месца. Ён мог быць першым, але на выніку адбілася нервовае напружанне. Фота Святланы ЦІШКО.

**Табло**

■ ФУТБОЛ, НАВІНЫ

Дубль "Маладзечна-2000" апошнім часам проста "развальуся". Саступілі "Нёману" 0:2 дома, "Славії" 0:12 на выездзе, "Тарпеда-СКА" 1:13 (Лабжанідзе) дома. Гэта звязана з тым, што ў складзе выступаюць зусім юныя футбалісты, напрыклад, нядаўна дазаяўленыя выхаванцы маладзечанскай ДЮСШ 1987 г.н абаронца Павел Суман, паўабаронца Яўген Каратай, нападаючы Дзмітрый Вараўка.

Смаргонскі СКЗ-ДЮСШ-1 у чэмпіянаце Гродзеншчыны замацаваўся на 4 месцы. Былі матчы супраць "Слоніма" 1:0 на выездзе, "Надзеі" (Іўе) 2:2 дома, "Хвалі" (Зэльва) 3:0 на выездзе, "Ліды" 0:0 дома, "Камунальніка" (Шчучын) 2:2 на выездзе, "Хімвалакна" (Гродна) 5:3 дома.

Юніёрская (да 17 гадоў) зборная краіны выступіла ў Швейцарыі ў еўрапейскім групавым адборачным турніры. Заняла 2 месца з 4 каманд і выйшла ў наступны групавы этап, дзе будуць разыгрывацца пуцёўкі ў фінальны турнір. Варатар Дзяніс Ганчароў з маладзечанскай ДЮСШ (цяпер займаецца ў РВАРы) быў у заяўцы зборнай, але ў матчах удзел не прымаў.

■ ПЛАВАННЕ

Чэмпіянат краіны на "кароткай вадзе", які быў прысвечаны памяці заслужанага трэнера Ігара Дурэйкі, прайшоў 14-15 кастрычніка ў Мінску. Маладзечанцы не засталіся без узнагарод.

Насця Лях выйграла 50 м брасам і дзве эстафеты за Мінскую вобласць: 4 па 50 камбінаваная і 4 па 50 вольным стылем. Віталь Бартashэвіч – другі ў эстафеце 4 па 50 вольным стылем.

■ ГАНДБОЛ

АШМЯНЫ. Дзяўчаты 1989-90 г.н. з мясцовай ДЮСШ (трэнер Алена Александровіч) удзельнічалі ў спартакіядзе спартыўных школ. У красавіку перамаглі ў абласных спаборніцтвах. На мінулым тыдні ездзілі ў Оршу на рэспубліканскі турнір. Там двойчы перамаглі (прадстаўнікоў Віцебшчыны і Магілёўшчыны) і тройчы саступілі. У выніку занялі 6 месца. У складзе вылучаліся тры Насці: варатар Касцюкевіч, палявыя Гардзейчык і Баркоўская.

■ ЦЯЖКАЯ АТЛЕТЫКА

СМАРГОНЬ. Шасцёра выхаванцаў СДЮШАР (трэнер Станіслаў Красоўскі, дырэктар Валерый Юрчанка) ездзілі ў складзе зборнай вобласці на рэспубліканскія Алімпійскія дні моладзі 1987-88 г.н. у Мазыр. Прызавыя месцы занялі Анастасія Рогач (1 месца, вагавая катэгорыя да 63 кг), Вадзім Войтkус (2 месца, 62 кг), Віктар Чыжэўскі (2 месца, 77 кг).

**Сяргей ГАЙКОВІЧ.**

■ АНОНС

**1 лістапада. Днепр-Трансмаш (Магілёў) – Маладзечна-2000.**

+5=5-11 25-41. У першым крузе 0:2 дома.

**2 лістапада. Смаргонь – Ліда.**

+1=0-2 2-4. У першым крузе 2:1 (Валавік – 2) на выездзе.

3 месца, 54 ачкі – 8 месца, 40 ачкоў.

**5 лістапада. Маладзечна-2000 – Дынама (Брэст).**

+3=7-11 17-39. У першым крузе 0:0 на выездзе.

## ВІНШАВАНКІ

**Зінаіду Пятроўну Кульчыцкую** з Вілейкі віншуем з юбілеем!



Юбилей – это наши итоги
Важных дел и серьёзных решений.
Юбилей – это наши дороги
К дням красивых побед и свершений.
Так пускай под шампанского брызги
Сердце радостно бьётся в груди!
У тебя пусть и у всех твоих близких
Будет лучшая жизнь впереди.

*Сын. Нявестка. Унукі.*

**Паліначка**, дачушка! Віншуем цябе з днём нараджэння! Жадаем здароўя і шчасця. Мы цябе вельмі любім. *Тата і маці.*

**Віталь Млечка**! Віншуем цябе з днём нараджэння!!! Поспехаў у новым жыцці! *Сябры з ГА "ХСДМ".*

**Ірыну Ісаенка** віншую з днём нараджэння. Жадаю моцнага кахання, здароўя, поспехаў у працы, дабрабыту. *Кацярына.*

**Сашу Камыніну** віншую з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, поспехаў у вучобе, кахання. *Кацярына.*

**Наталлю Вашкевіч** віншую з днём нараджэння. Жадаю моцнага здароўя, знайсці сваю палавінку, поспехаў. *Кацярына.*

**Дзяніса Машко** віншуем з днём нараджэння! Менш суму, больш аптымізму і добрага настрою. *Дружына скаўтаў "Маладзэчына".*

**Саша Цупа**! Віншуем цябе з 20-годдзем. Здароўя, шчасця, доўгага жыцця, поспехаў усюды і ва ўсім. *Твая сям'я.*

**Алену Філіповіч** віншуем з надыходзячым днём нараджэння. Жадаем шчасця, здароўя і каб збываліся жаданні. *Муж, дочкі.*

**Вольгу Пятроўну Супрановіч** віншуем з днём нараджэння! Здароўя, шчасця! *Калектыў Вілейскага д/с №5.*

**Вольгу і Дзмітрыя Смірновых** з гадаўшчынай шлюбу. Жадаем шчасця і доўгіх год сумеснага жыцця. *Ад сяброўак Наташкі і Танюшкі.*

**Лену Філістовіч** віншуем з днём нараджэння. Жадаем моцнага здароўя, поспехаў у працы, сямейнага дабрабыту, кахання, шчасця. *Рамановічы.*

**Аляхновіча Сяргея і Наталлю** віншуем са шлюбам!!! Кахання, узаемаразумення, цярплівасці і як мага больш радасці! *Сябры з ГА "ХСДМ".*

**Ганначка Чарненка** з Краснага! З днём нараджэння! Здароўя, поспеху, шчасця! *Рэгіна.*

**Ганну Карповіч** віншую з днём нараджэння! Сонейка маё, здароўя, шчасця, поспеху, дабрабыту. *Рэгіна.*

**Святлана Тарыма**! З днём нараджэння! Здароўя, поспеху, сямейнага шчасця і дабрабыту! *Рэгіна.*

**Святлана Гудзебская**! З днём нараджэння! Шчасця, кахання, поспеху, здароўя. *Рэгіна.*

**Таццяна Цітова**! З днём нараджэння! Здароўя, шчасця, поспеху! *Рэгіна.*

**Ніна Грыневіч**! З днём нараджэння! Здароўя, поспеху, шчасця, кахання. *Рэгіна.*

**Соф'ю Канстанцінаўну Кабак** віншуем з днём нараджэння. Шчасця, кахання, поспеху, вязення і здароўя. *Ніна, Марына.*

**Зосю Кабак** з ААТ «Стройдетали» віншуем з днём нараджэння. Жыві сто год без бед. *Луцэнка, Кажарновіч, Дружыніна.*

**Валодзю Вайда** віншуем з днём нараджэння. Усё добрае ў гэтым лёсе ад душы жадаем табе. *Сям'я Луцэнка.*

■ З НАШАГА АКНА

# Лёг сняжок на ліст зялёны

**Вокны рэдакцыі не выходзяць ні на Цэнтральную плошчу горада, ні на бойкую вуліцу. Але і на гэтым лапіку кожны дзень нешта адбываецца. Некалькі дзён таму тут гаспадарыла зіма.**

Падкралася госця няпрошаная непрыкметна. За адну толькі ноч пабяліла дахі дамоў, дарогі, апранула ў аднолькавыя белыя шапкі аўтамашыны, якія начавалі на стаянках ля дамоў. Змяніўшы венікі на лапаты, дворнікі зграбалі снег, і цяжка ўздыхалі: "Ранавата зімка лягла, ранавата".

Радаваліся снегу хіба што дзеці. Снежкі, якія ніяк не хацелі ляпіцца, качалі голымі рукамі і з вясёлым смехам пускалі адно ў аднаго. А на Цэнтральнай плошчы горада іграла музыка. Туды, з вёдрамі і пакетамі ў руках, спяшаліся па-рабочаму апранутыя гараджане. Зіма застала раён знянацку. Пад снегам засталіся морква, буракі, капуста. Вызваляла іх цэлая армія народу. Па 6-7 аўтобусаў з гараджанамі, мо, тыдзень запар бралі курс на калгасныя палеткі. Ехалі не толькі прадстаўнікі ад калектываў. Удзел у "акцыі" бралі і беспрацоўныя, пенсіянеры, з якімі гаспадаркі разлічваліся натурпрадукцыяй.

Асобныя маладзечанцы, вярнуўшыся з "заработкаў", неслі капусту не толькі сумкамі, але і мяхамі. А снег тым часам сыпаў і сыпаў. Пад яго цяжарам галіны дрэў не проста стагналі, ламаліся. Не вытрымаў стары, вялікі клён і ля нашага акна. З трэскам і шумам упала на зямлю яго вялізная, яшчэ ўся ў зялёных лісцях галіна. Прыгожа і ў той жа час нязвычна глядзелася яна на бялюткім, некранутым снезе.

Бабулька ў магазіне сказала, што мароз ненадоўга. Маўляў, не памятае яна, каб зіма пачыналася так рана. А снег на ліст зялёны – на мяккую зіму. Здаецца, прагнозы яе пачынаюць збывацца. У аўторак вечарам ужо імжаў дождж, які добра-такі "падмачыў" снег. Толькі горад чамусьці падобны не на асенні, а на вясновы. Усё пераблыталася як у жыцці, так і ў прыродзе.

**Марына СЛІЖ.**



**Першы снег, што выпаў у сераду, 22 кастрычніка, апрануў дрэвы ў вялікія белыя шапкі.**

Фота Святланы ЦІШКО.

## Кінатэатр «Радзіма»



**31 кастрычніка-2 лістапада.**
**"Перавозчык"**, ЗША-Францыя, баявік, акрамя асоб да 16 год, — у 17.00 і 19.00. 1 і 2 лістапада – у 15.00, 17.00 і 19.00.
**"Украсці Гарвард"**, ЗША, крымінальная камедыя – у 21.00.
**3-9 лістапада.**
**"Піраты Карыбскага мора: пракляцце Чорнай жамчужыны"**, ЗША, 2 серыі, прыгоды – у 16.00, 18.30 і 21.00.

### Для дзяцей

**1 лістапада.**
**"Востраў скарбаў"**, Расія, прыгоды – у 12.00.
**2 лістапада.**
**"Джона гароднінная"**, ЗША, поўнаметражны мультфільм – у 12.00.
**3 лістапада.**
**"Зеўс і Раксалана"**, ЗША, прыгоды – у 12.00.
**4 лістапада.**
**"Востраў дыназаўраў**, поўнаметражны мультфільм – у 12.00.
**5 лістапада.**
**"Кароль паветра: вяртанне Спайка"**, прыгоды – у 12.00.
**6 лістапада.**
**"Спірыт – валадар прэрый"**, ЗША – у 12.00.
**7 лістапада.**
**"Цуда сланяня"**, ЗША, камедыя – у 12.00.

Для школьнікаў набывайце абанемент на прагляд пяці фільмаў. Пяты фільм будзе паказаны бясплатна. 7 лістапада – падарунак ад кінатэатра. Цана абанемента – 2000 руб. Арганізаваны папярэдні продаж.
Дыскатэка: для моладзі – у пятніцу і суботу ў 21.00, для школьнікаў старэйшых класаў – у суботу ў 18.00, для малодшых школьнікаў – у нядзелю ў 15.00.
Працуе бар. Камп'ютэрныя гульні.
Тэл. для даведак: 7-15-92, 7-06-30.

■ КОНКУРСЫ

## Зарабі білеты ў кіно



Вітаю вас! Відаць, заданне Аляксея Шчаснага аказалася надзвычай цяжкім. Правільныя адказы даслалі толькі чатыры чалавекі: **Сяргей Баранаў, Дзмітрый Пакладок, Ігар Сільвановіч і Ірына Шкленік** з Маладзечна. Усе яны, а таксама **Аляксей Шчасны** і атрымліваюць білеты ў кіно!

А зараз, правільны адказ. Вакол зафарбаваных шасцікутнікаў лікі ад 1 да 24 трэба расставіць так.




Тады пасля складання кожных шасці лікаў атрымліваецца сума, роўная 75.

Ну, а цяпер давайце намалюем. Не адрываючы алоўка ад паперы, начарціце кожную з гэтых фігур. Умова: па адной лініі не праводзіць алоўкам двойчы.




Чакаю вашых адказаў да наступнага аўторка (28 кастрычніка) уключна. А цікавыя прапановы і парады прымаюцца з панядзелка па пятніцу з 8.00 да 17.00 без перапынку на абед. Будуць разыграны 8 білетаў.

**Падрыхтавала Аксана КУЛЕЎНІЧ.**

■ ІМЯНІНЫ

**31 кастрычніка**
**Праваслаўныя**: Іосіфа, Лукі, Юльяна.
**Каталіцкія**: Вольфганга, Урбана.
**1 лістапада**
**Праваслаўныя**: Клеапатры, Івана.
**Каталіцкія**: Усіх Святых.
**2 лістапада**
**Праваслаўныя**: Арцёма, Герасіма.
**Каталіцкія**: ДЗЯДЫ (Задушны дзень), Багдана.
**3 лістапада**
**Праваслаўныя**: Іларыёна, Якава.
**Каталіцкія**: Сільвіі, Губерта, Марціна.
**4 лістапада**
**Праваслаўныя**: Ганны, Фядоцці, Аляксандра, Антона, Дзяніса, Івана, Канстанціна.
**Каталіцкія**: Альгерда, Кароля.
**5 лістапада**
**Праваслаўныя**: Ігната, Якава.
**Каталіцкія**: Захарыя, Славаміра.
**6 лістапада**
**Праваслаўныя**: Апанаса, Феафіла.
**Каталіцкія**: Леанарда, Фелікса.



## ЗНАЁМСТВЫ

Магчыма, менавіта нам з табой суджана знайсці той кавалачак шчасця? Пра сябе: прывабная, добрая, 48/165/65. Маладзечна-4, п/д 508.

Мужчына, 51/178/188, пазнаёміцца з блізкай жанчынай для сумеснага жыцця. Маладзечна-3, п/п МС 0400123.

## Купон 44

рэгіянальная газета

да рубрык «Віншаванкі» і «Знаёмствы». Бясплатна змяшчаюцца тэксты аб'ёмам да 15 слоў. Ананімныя купоны не разглядаюцца. Пішыце, калі ласка, разборліва.

ТЭКСТ

ПРОЗВІШЧА, ІМЯ, АДРАС (НЕ ДЛЯ ДРУКУ)

### Звярніце ўвагу

**Шаноўныя чытачы, калі вы хочаце павіншаваць знаёмых, блізкіх, то высылайце купон з разборліва напісаным тэкстам загадзя. Указвайце дату публікацыі – газета выходзіць па пятніцах. Бясплатна прымаюцца віншаванкі аб'ёмам да 15 слоў, якія паступілі ў рэдакцыю да аўторка ўключна. Зрабіце прыемнае сваім блізкім – павіншуйце іх праз газету!**
**Калі вы хочаце размясціць аб'яву аб знаёмстве, калі ласка, указвайце адрас да запатрабавання і нумар дакумента ўладальніка. Бясплатна змяшчаюцца аб'явы аб знаёмстве аб'ёмам да 15 слоў. Публікуюцца па чарзе. Па-за чаргой – платна. Жадаем знайсці сваё шчасце!**

## Хутка Новы год!

### Лепшы падарунак сабе і сям'і – падпіска на «РГ»!

Індэкс індывідуальнай падпіскі 63212, кошт 2460 руб.
Індэкс ведамаснай падпіскі 63369, кошт 7380 руб.


рэгіянальная газета
Выбух каля Верадова
рэгіянальная газета
Вайсковыя "археолагі"
рэгіянальная газета
Дададзім экстрыму

## Атрымайце прыз ад «РГ» да Новага года!

Для удзелу ў розыгрышы прызоў трэба падпісацца на I квартал ці I паўгоддзе, зрабіць ксеракопію квітка і адправіць на адрас рэдакцыі: Вялікі Гасцінец, 68а, Маладзечна, 222310 з паметкай «Падпіска».

**Увага!** На лістапад і снежань 2003 года можна падпісацца да 25 чысла кожнага папярэдняга месяца (кошт індывідуальнай падпіскі 2000 руб., ведамаснай падпіскі 5941 руб.).

